
Альжбета РУДКОЎСКАЯ → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 15 (3335) Год LXV | Беласток, 12 красавік 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Дзеці чакалі свята




**Пра даўнейшую падрыхтоўку да Вялікадня ў Крывой і цяперашнюю ў Орлі — размова з Яўгеніяй ТХАЖЭЎСКАЙ, у дзявоцтве Станіслаўюк з Крывой, 1949 года нараджэння, зараз пенсіянеркай, у 2006-2014 гадах солтысам Орлі.**

**— Ці бацькі загадвалі ісці ў царкву?**

— Бацькі не прымушалі хадзіць у царкву, але калі яны ішлі, то і мы ўсе таксама. Да спавядання ішлі перад Пасхай у шчытоўскую царкву, 7 красавіка, на Благавешчанне; Вялікдзень мала калі бывае раней. Калісь мама заўсёды пад Благавешчанне пякла буславу лапу. Бо гэта такое свята, калі прылятае бусел і на Благавешчанне мусіць знесці яйка. Гаварылі, што Благавешчанне было важнейшым святам чым Пасха.

Што рыхтавалі на стол? Былі драўляныя капанькі; зараз усё ў місках. Калісь капанька меншая, большая, дзежка на хлеб. Калі я выйшла замуж і прыйшла ў Орлю, то яшчэ пякла тыя буславы лапы. І мужава бабуля таксама пякла. Пяклі з сырам і з макам. Хлебная печ была на восем блях.

Дзеці чакалі таго Благавешчання. А пад Пасху ўжо менш пяклі кандытарскіх. Мама пякла і мазурку, кожную з іншага цеста. Бісквітны пірог быў невялікі, а мазурка была на цэлую бляху, пісалі „Хрыстос васкрос". У пірог давалі разынкі, яны калісь былі. Тварожнікі таксама пяклі, але больш пад Руздво.

Макаўнікі? Мак сеялі, па мяшку збіралі маку. Як пойдзем, то нарвём дзесяць мяшкоў макавак; найбольш сеялі на буraках. Калі прыйшла сюды, у Орлю, то можна было сеяць, а пасля нельга; трэба было пісаць. То сеяла на сваім полі каля лесу ад Рудутаў, а пазней і туды дайшлі тыя наркаманы з-па-за Орлі. Аднаго злавілі, то прыходзіў ягоны дзед і прасіў нічога не рабіць.

**— А сёння ўсё ёсць у краме...**

— Так, толькі калісь мак не быў такі горкі як зараз. Купіш макаўнік, а ён горкі.

**— Памятаю, як мой бацька круціў мак тапарыскам у верцесе.**

— Пазней пачалі мак парыць і малоць у мясамолцы, некалькі разоў.

**— А мяса?**

— Гадавалі свіней, цялят. Пад Пасху заўсёды рэзалі цяля. Рабілі з яго рулеты, усё. Спячэш кумпячыну — таксама смаката. Не было маразілак, то каўбасы ў вядро і залівалі шмальцам. Той шмалец добры быў, калі вымеш каўбасы, то наясіся. Рабілі мяса ў слоіках.

Кумпяк сушылі. Ляжаў у драўлянай бочцы шэсць тыдняў на адным баку, пасля на другім. Тады вымаеш у чыстае льнянное палатно і вешаеш на двары. Калі высахне, то лепшага ласунку няма. Калі я прыйшла ў Орлю, то таксама сушылі. Прыехалі госці, накроілі, то прасілі, каб ім даць дадому па кусочку. Смачны быў кумпяк. А цяпер яго ніхто не робіць, настаў іншы час.

Яйкі красілі ў цыбульным шалупінні. (Яшчэ даўней яйкі фарбавалі натуральнымі фарбавальнікамі, адварамі траў і кары дрэў — М. М.) Калісь на вёсках людзі гадавалі індыкоў, качак, гусей. Качынае яйка крыху большае за курынае і яно быццам сіняватае; таксама фарбавалі. Але гулялі толькі курынымі. (Яйка здаўна лічыцца сімвалам новага жыцця і ў такім сэнсе, не толькі смакоцця, красуецца яно пісанкай на велікодным стале — М. М.)

У Крывой бацюшка свянціў свянцонкі хіба аж у чатырох месцах. Плацілі яйкамі, выносілі збожжа — ехала фура і збірала.

Ігралі — хто больш выйграе. Ішлі на нейкую горку і пускалі яйкі. А старэйшыя мужчыны сыходзіліся на лавачкі і таксама мелі валачобнае ў кішэнях. І білі.

Калісь з яйкамі не было праблемы, калісь гадавалі курэй. Не так, як цяпер, што ў Орлі можа толькі з дзесяць асоб трымае курэй; на маёй вуліцы Кляшчэлеўскай гадуюць Люба, Соня, Надзя, Аля, я, Маня і Насця. На Кашалёўскай і Мая ніхто. Гадаваў там Мартыновіч, але ліса выбрала — ужо ходзіць з двойкай малых.

**— Хлеб?**

— У Крывой была крама, але ўсе нашы суседзі пяклі свой хлеб. Бацька прывёз з Расіі хлебныя бляхі, такія высокія. Боханы высокія раслі — тыдзень елі той хлеб. Елі як прыходзілася.

**— А як было ў Орлі, калі Вы сюды прыйшлі?**

— Тут мужава бабуля рабіла яшчэ па-старыннаму, напрыклад, буславы лапы. Але ў Орлі мала хто пёк; тут усё „паны" былі. На бабачкі былі формачкі, і на коржыкі. Але найбольш цеста рабілі „машынкай".

**— Што памянялася з таго часу?**

— У Орлі яшчэ некаторыя пякуць бабачкі; я — кожны год. Можа танней, можа не. Але сваю бабачку пачынаеш есці, то чуеш, што нейкае сваё. І два тыдні можа ляжаць.

**— А цяпер, калі Вы аўдавелі і дзеці далёка, то як праводзіце Вялікдзень?**

— Пяку. Купляю мала. Сама раблю тварожнік. Каштуе, але свой выраб лепшы. У краме плаціш васямнаццаць злотаў за кілаграм, а за васямнаццаць злотаў купіш усе кампаненты і ў бляхе спячэш некалькі кілаграмаў. Але ўжо і не вельмі хочацца. Калісь сын Ігар казаў „Мама, няма тортавага цеста — няма свята". То я яго пяку пад кожнае свята. Але то дарагое цеста, бо трэба аж чатырнаццаць жаўткоў. Але чалавек не калькулявае — рабіў, бо сваё.

**— Вы да замужжа жылі ў Крывой. Раскажыце пра незвычайныя цуды або даўнія легенды з Крывой.**

— Калісь пасля заняткаў у школе трэба было пасвіць кароў ці авечак. І там, каля пашы, быў лес, і цяпер ён ёсць. Лес дзяліцца на тры: Балота, *Ворушчына*, а трэцяга не помню — як ехаць на Агароднікі, то на трэці лес. І калісь усё казалі, што ў тым трэцім месцы заваліласа царква. І калі я была дзіцём, то са школы апоўдні бегалі слухаць званоў.

**— Вам так здавалася?**

— Не, так было! З зямлі чутны быў гук звона. І мы бегалі слухаць той звон. І старэйшыя людзі прыходзілі. Гэта быў такі дол, быў роў, расла альшына.

Другое — у сярэднім лесе ляжаў вялікі камень. Калі з Крывой выедзеш на Агароднікі, праз брод, куды бліжэй было ў Бельск на рынак. І той камень страшыў. Адзін гаспадар забраў той камень на фундамент пад стадолу. І паклалі яго ў фундамент. Раніцай заходзяць, а таго каменя няма! Камень вярнуўся на сваё месца ў лес. Гэта праўда! То было ў мой час, я яго бачыла. Сядзела на ім, калі пасвіла авечак. Так расказвалі. На камені быў нейкі надпіс. Зараз там пэўна зарасло. Але напэўна кожны ў Крывой ведае пра той камень.

Трэцяя легенда. Калісь усё казалі, што як хтось памрэ, то зараз чорт золата ў хату прынясе, у комін. Але не ўсім ён насіў. І людзі бегалі за стадолу выглядаць...

І я так усё думаю сустрэць каго з Крывой, каб паразмаўляць. Прыпомніць тое ўсё, бо я ўжо пяцьдзясят гадоў жыву ў Орлі. А як хтось з Крывой і прыедзе, то забудзеш згадаць пра тыя легенды.

Я ўжо казала сваёй сястры Тамары, што ў Чаромсе: „Давай зганем". А яна кажа: „Што мы зганем? Як калісь бацька пасее тры гектары лёну і ўначы рвем? Бо абсыпаюцца галоўкі і ў рукі коле, то ночу рвалі, бо тады вільготны. І як сядзем на досвітку, калі шарэе, у росплуг, як заспяваем „Еду ў Германію": „Ноч пачынаецца, еду ў Германію я паміраць..." І людзі чуюць нас і кажуць: „О, Івановы спяваюць".

У кожнай хаце былі кросны, штосьць з лёну рабілі. Рабілі палатно, ткалі палавікі. Я ўжо ў ільняным палатне не хадзіла. Але ткалі ручнікі, мяшкі...

**— Дзякую за размову.**

Пытанні і фота
Міхала МІНЦЭВІЧА





# Новая рэальнасць

Страшнае слова „пандэмія"прагучала зусім нядаўна. Не хацелася верыць чалавецтву ў мажлівасць такога сэнсара, але прыйшлося. Нават Сусветная Арганізацыя Здароўя агучыла яго не адразу. Былі спадзевы на лепшае. Але спадзевы не спраўдзіліся. Прыйшлося з жахам пагадзіцца, што на планеце ўсё ж пандэмія. Гэта зараз прызналі амаль усе. Ёсць, вядома ж, і пара-тройка як бы самых разумных, якія маюць сваё персанальнае бачанне. Ну, але як жа без іх. Было б дзіўна, калі б такіх не знайшлося ўвогуле.

Вірусныя інфекцыі ды іншыя хваробы прыходзілі і раней. Свіны грып, птушыны, звычайны з безліччу розных мадыфікацый таксама наведваўся штогод. І таксама не абыходзілася без ахвяр. Некалі з жахам чалавецтва пачула пра СНІД, зусім нядаўна насцярожвалася пры слове „Эбола". Але да пандэміі справа не даходзіла. Здаецца, яшчэ ўчора медычныя службы інфармавалі насельніцтва, што вельмі шмат забіраюць ахвяр сардэчныя хваробы, хранічныя хваробы лёгкіх, цукровы дыябет, туберкулёз. Усё як бы ішло да таго, што калі чалавецтва нічога не памяняе, то наступная хвароба будзе яшчэ цяжэйшай. І вось яно здарылася. Зараз увесь свет спалохана змагаецца з галоўнай бядой — з вірусам, які нават і ў назве ўкаранавалі.

Усе іншыя кароны спалі з ганарлівых галоў. Гэты вірус нібыта заявіў, што не мы, людзі, тут галоўныя на гэтай планеце. Гэта мы ганарліва называлі сябе такімі. Але зараз аказаліся ў вельмі складанай сітуацыі. І ўжо не да гордасці. Не бліщчаць адбеленымі зубамі зараз на тэлеэкранах ганаровыя галівудскія зоркі, не задзіраюць нос прынцы, не хваляцца сваім спрытам вядомыя спартоўцы, не выхваляюцца сваімі поспехамі ўдалыя бізнесоўцы і іншыя агульнапрызнаныя персоны. Усе спадзяюцца на нейкага невядомага да гэтага часу сціплага рупліўца без кароны, які вынайдзе ўрэшце вакцыну або лек, бо нябачная карона віруса аказалася самай страшнай. І ўсе знялі перад ёй шапкі.

На другі план адышлі паведамленні пра войны, уцекачоў, нелегальных мігрантаў, ваенныя злачынствы, парушэнні міжнародных дамоўленасцей, захоп чужых тэрыторый, і многае іншае. Не выхваляюцца больш блакітныя экраны тэлевізараў новым дызайнам машын, куды на іх зараз паедзеш. Не хваляцца і самыя дызайнеры новымі калекцыямі моднай вопраткі, куды зараз яе апранеш. Больш не дэманструюць модніцы новы нос пасля пластычнай аперацыі. Не гавораць нават пра вынаходніцтва новай, і на гэты раз сто адсоткаў дзейснай дыеты для пахудзення без абмежавання ежы. І ўвогуле больш не гавораць пра ўсё тое, чым жылі людзі зусім нядаўна. Проста ўспамінаюць і думаюць, чым жа яны жылі.

Эканамічныя паказчыкі зваліліся ніжэй уяўлення пра іх падзенне. Нафту можна браць ледзьве не за дарма, але яна, на жаль, не лечыць. Нейкую надзею даюць сродкі асабістай абароны, такія як маскі ці сродкі дээінфекцыі. Але, як аказалася, на планеце значна больш прыдумана сродкаў нападзення, чым сродкаў абароны. І напэўна толькі зараз людзі гэта заўважылі.

Зусім нядаўна ішлі гарачыя спрэчкі пра этычнасць ці неэтычнасць пабудовы бар'ераў ад мігрантаў, зараз жа ўсе межы зачыненыя наглуха, і не толькі па перыметру, але і ў сярэдзіне дзяржаўных утварэнняў, і нават у сярэдзіне некаторых дзяржаў. Я ўжо не кажу пра забарону на масавыя акцыі. Ды што там акцыі, нельга не толькі ў бар выйсці з хаты, але і ўвогуле выйсці без патрэбы. А спіс такіх патрэб складзены і ён не вельмі вялікі. Усё хутка і рашуча змянілася з адной толькі надзеяй, каб уратавацца як мага больш жыццяў і спыніць распаўсюд хваробы далей. І пакуль іншых метадаў змагання з пандэміяй не знойдзена, прыходзіцца выбіраць гэтыя.

Зрэшты, ёсць і такія краіны, якія змагаюцца іншымі метадамі. Прыкладам, улады Туркменістана ўвогуле забаранілі слова каранавірус. А за размовы пра пандэмію можна патрапіць пад перасылед. Такое вось змаганне.

У Беларусі з гэтым поўная свабода. Можна гаварыць гэтыя словы. І ўвогуле ўсё можна. І гуляць па барах, і хадзіць на спартовыя мерапрыемствы, і перамяшчацца ў кожным кірунку. Ну а метады абраныя суседзямі названы псіхозам. Метады абраныя ўладамі Туркменістана пакуль што аніяк не каментаваліся.

Віктар САЗОНАЎ

# Інструкцыя па правядзенні вольнага часу



Ну, і блін, і бэнц, і піпец! Што рабіць з вольным часам? Як вядома з параўнальнай статыстыкі, грамадзяне Польшчы з'яўляюцца адной з самых занятых грамад у свеце. Напрыклад, у гэтым плане багатыя немцы значна ззаду за намі. Цікава, чаму мы не багацейшыя за іх — па прынцыпе: хто больш працуе, тым больш мае?! Але! З кожным годам мы становімся ўсё бяднейшымі ад іх. Дзе ў гэтым закавычка? Для такіх багатых, як немцы, японцаў, якія пакідаюць працу толькі для таго, каб памяняць кашулю дома і зноў пайсці працаваць, сапраўды не хапае нам толькі крыху. З пункту гледжання працавітасці, вядома. Таму што ў эканамічным і матэрыяльным плане мы нават не вырастаем да іхніх жоўтых пятак. Гэтак жа, як і да дагледжаных пятак амерыканцаў *en gros* — усіх рас, нацыянальнасцей, канфесій і сексуальных арыентацый. У рэшце рэшт, нягледзячы на ўсе ментальныя, псіхалагічныя і культурныя адрозненні, усе яны маюць „амерыканскі" падыход да працы, навязаны бязлітасным капіталізмам, які арыентуецца ў першую чаргу на „прадуктыўнасць" і „эфектыўнасць". Акрамя слабых бакоў гэтай сістэмы, гэтыя два прынцыпы, якія рацыяналізуюць працу чалавека, проста разумныя. Не варта злучаць іх „працавітасцю", якая паміж імі з'яўляецца непатрэбным упрыгожваннем і нават чымсьці недарэчным, таму што яе прыродныя адмаўленні — лянота ці разгільдзяйства, па вызначэнні, не могуць быць прадуктыўнымі або эфектыўнымі. Таму няма ніякіх прычын для таго, каб там былі працавітымі. І сапраўды так і ёсць. Дзіўна, наколькі агіднае стаўленне фільмавага Ферддка Кепскага да таго, што «трэба працаваць, каб зарабляць, а не нарабіцца», цалкам супадае з амерыканскай практыкай працы. Але мы пагарджаем Фердкам у Польшчы. І, як ні парадаксальна, мы захапляемся амерыканцамі. Што яны Фердкі? Вядома, яны ёсць такія! Праўда, не зусім такія, як польскія «кепскія». Амерыканцы працуюць эфектыўна на працягу пяці дзён, але і эфектыўна адпачываюць у выхадныя дні. Не абавязкова пры грылі. Часам яны проста нічога не робяць. Нічога-нічагуткі. А папраўдзе гэта шмат. Сваім вольным часам яны кіруюць вельмі прадуктыўна — па ўласнай волі і выбары. І гэта была б найлепшая інструкцыя па вольным часе. Быць абсалютным уладальнікам свайго часу.

Час каранавіруса прымушае нас да непажаданай рэфлексіі. І вельмі добра! Чаму гультайства мае нас прымушаць да пачуцця вінаватасці? Шмат каму яна здаецца грэшнай. І для большасці з нас гэта сур'ёзная экзістэнцыяльная праблема. Я ўспомню аб ёй толькі таму, што гэта патрабуе больш глыбокага аналізу. Наша стаўленне да часу здаецца быць сутнасцю. Таму мы ставімся да яго, быццам бы мы яго пасіўныя карыстальнікі. Ці нават рабы. А мы павінны быць кіраўнікамі свайго часу! Аднак мы не хочам браць на сябе гэтую функцыю. Мо гэта ўцёкі ад асабістай адказнасці за час, які нам даецца як уласнае жыццё? Такім чынам, мы аддаем час на каго-небудзь, на нешта... Спачатку гэта было бенедыкцінскае *ora et labora*, маліся і працуй, якое спрабавала пераняць кіраванне чалавечым часам яшчэ з пятага стагоддзя. Яго рамкі, хаця і строга акрэсленыя, былі часова недакладнымі. Кожны працаваў у адпаведнасці са сваімі патрэбамі ці абавязкамі, але толькі тады, калі не меў патрэбы і неабходнасці адпачынку. Рэжым „вытворчай лініі" з непарыўнай дыктатурай механічных гадзіннікаў ужо дакладна аддзяліў працоўны час ад вольнага часу і адначасова ўзяў пад кантроль наш біялагічны рытм. Мы хацелі ці не хацелі, круціліся ў рузвэрку часу, незалежна ад часу дня і ночы. І, што трэба прызнаць, гэта былі выдатныя практыкаванні перад гонкай пацукоў у сучасную эпоху. Ніхто гэтага не загадаў. Ніхто не наказаў. І зноў ці мы хацелі, ці не хацелі гэтага, але мы далучыліся да гэтага, зводзячы час, незалежны ад працы, да мінімуму — за кошт сну, за кошт сям'і і сяброў, за кошт асабістага развіцця. Адзінай узнагародай за гэтую самааддачу была сацыяльная ацэнка нашай... працавітасці, стараннасці. Працавітасці не дбаючай аб эфект, але ласай на чалавечую хвалу. Такім чынам у краіне ўсталяваўся культ стараннасці. Шкада, што не эфектыўнай працы. Асаблівая прыкметна ў сельскай грамадзе, звычайна не жадаючай навінак, асабліва чужых, і мульці-кульці

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Вірус і грошы

Жыццё ў перыяд каранавіруса прыносіць выклікі для ўсіх галін жыцця. На жаль, большасць з іх нясуць пасланцы дрэнных навін. Няйначай маюцца справы і з гаспадаркай. Тут маем проста лавіннае падзенне валавога ўнутранага прадукту ў кожнай краіне, а таксама маланкавы рост беспрацоўя. Кожная дзяржава стараецца прыняць свае антыкрызісныя шчыты, каб не пазбавіць з дня на дзень людзей працы і заробкаў. Менавіта гэтага найбольш проста баяцца звычайна грамадзяне любой краіны. Вядома, што бюджэтны дэфіцыт будзе несці за сабою ўсе магчымыя ашчаднасці ў дзяржаўным фінансаванні. Кошты вайны з каранавірусам будзем адчуваць не толькі ў гэтым годзе, але і ў наступных. Пры канцы сакавіка ў рэдакцыю „Нівы" пазваніў журналіст з альштынскай прэсы з запытаннем, ці на польска-беларускіх пагранпераходах стаяць аграмадныя чэргі беларускіх грамадзян жадаючых вярнуцца ў Беларусь. Пабачыўшы тое, што дзеялася на польска-ўкраінскай мяжы на пешаходных прапускных пунктах, можна было толькі схапіцца за галаву. Дзясяткі тысяч украінцаў захацелі вярнуцца на Украіну перад тэрмінам закрыцця мяжы, аб'яўленым украінскім прэзідэнтам. З даных украінскага пасольства ў Варшаве даведваемся, што звыш ста тысяч украінцаў вярнулася на радзіму. У адзін толькі дзень 27 сакавіка мяжу перасякло 22,5 тысячы эмігрантаў з Польшчы. У сувязі з так маштабным вяртаннем украінскія ўлады адмовіліся ад поўнага перакрыцця мяжы, даючы шанц на невялікі пасажырскі рух. Нагадаю, што ў Польшчы працуе прыблізна 1,2-1,5 мільёна ўкраінскіх грамадзян. Прыблізна 500 тысяч аплачвае страхавыя зборы і мае доўгатэрміновыя працоўныя кантракты. Іншыя не маюць такіх дамоў, а большасць з іх працуе ў сектары ценявой занятасці. Для гэтай групы ўспышка каранавіруса на практыцы можа абазначаць ліквідацыю іх месцаў працы. Пацікавіўся я ці, напрыклад, на сыраварным заводзе ў Сямятычах, дзе легальна працуюць украінскія рабочыя, назіраецца іх вяртанне на радзіму. Паводле маіх суразмоўцаў прадпрыемства пакуль працуе і надалей ёсць запатрабаванасць на іх працу. Можа ў гэты момант яшчэ нават большая, бо многія польскія працаўнікі ў сувязі з эпідэміяй каранавіруса змушаны былі перайсці на хатняе апякунства над сваімі малымі дзецьмі. Маюць яны ўсе патрэбныя дакументы на легальную працу, а іх далейшы працяг будзе аўтаматычна перадоўжаны польскімі ўладамі. Паводле апытанняў 83% украінцаў хацела б застацца ў Польшчы, аднак 60% адчувае ўжо абмежаванні ў выніку склаўшайся эканамічнай сітуацыі. Ужо 30% апытаных прызналася, што страціла працу, а 7% было ўжо вымушаных з'ехаць з Польшчы. Яшчэ перад эпідэміяй каранавіруса з даследаванняў вынікала, што 30% украінцаў хацела пераехаць з Польшчы ў Нямеччыну, якая з 1 сакавіка ўвяла льготныя ўмовы для прыезду грамадзян з Украіны. Гарантуецца ім зарплата памерам 1-1,5 тысячы еўра і працоўная віза на год часу, а не на паўгода як у выпадку Польшчы. Ужо два гады раней нямецкія фірмы пачалі супрацоўніцтва з украінскімі прафесійнымі школамі з мэтай падрыхтоўкі патрэбных спецыялістаў і абучэння іх нямецкай мове. Зараз у Нямеччыне працуе 100 тысяч украінцаў. Прыблізная колькасць знаходзіцца ў Іспаніі, Партугаліі, Чэхіі. У Італіі знаходзілася да паўмільёна ўкраінцаў і, паводле эпідэміёлагаў, гэта адтуль менавіта каранавірус трапіў на Украіну. Паводле статыстыкі зараз за межамі Украіны знаходзіцца ад 3,5 да 4 мільёнаў яе грамадзян. У мінулым годзе ўкраінскія працоўныя мігранты пералічылі на радзіму 12 мільярдаў долараў, з чаго з Польшчы 1-2 млрд. Што будзе ў час пандэміі, аніяк не прадбачыць.

Яўген ВАПА

Настаўнікі роднай мовы

# Самы цудоўны ўспамін:

## зала 308 поўная радасці, смеху, цікавай гутаркі...

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Першапачаткова я была накіравана на рускую мову, але жыццё піша свой сцэнарый і цешыць мяне, што я трынаццаць гадоў магла быць настаўніцай беларускай мовы.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Пра адзін ідэал цяжка сказаць. Вельмі шаную настаўнікаў з Бельска, Гайнаўкі, Нарвы, Беластока.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Думаю, што супрацоўніцтва ў нашым асяроддзі вельмі важнае і я была ў кантакце перш за ўсё з Іалантай Грыгарук, Іаннай Марко, Алінай Ваўранюк.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Вельмі добра ўспамінаю супрацоўніцтва з Аб'яднаннем АБ-БА.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Магу назваць некаторыя. На маю думку самыя цікавыя праекты гэта Калядныя вечары, Шчодрыя вечары, Сямейныя пікнікі, Конкурс чытання кніжак, разам з вучнямі мы хадзілі на канцэрты, выстаўкі, спектаклі, ездзілі на экскурсіі, хадзілі чытаць кніжкі дзеткам як у беларускі, так і польскі садок, вялі сваю хроніку. Удалося арганізаваць спаборніцтвы па стральбе для гімназістаў, якія вывучаюць беларускую мову. Да нас прыязджалі вучні з Бельска, Гайнаўкі, Нарвы. Чаромхі, Орлі, Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Галоўнай мэтай гэтага праекта была інтэграцыя асяроддзя.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Апрача прадметнага, які адчыняў вучням дзверы школ, пра якія яны марылі, напэўна Конкурс беларускай песні. Мае вучні былі вельмі музыкальнымі. Таксама кожны год мы чакалі падляшскіх спаборніцтваў па валейболе для дзяўчат з гімназій. Гэта вельмі інтэгравала гімназістаў.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Ніколі ніхто не адказаў мне ў дапамозе.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Напэўна складанасць, таму што настаўнік павінен зацікавіць і прапанаваць цікавыя праекты.



**Альжбета РУДКОЎСКАЯ** — нарадзілася ў Бельску-Падляшскім, там закончыла ПШ № 4 і III Агульнаадукацыйны ліцэй. Штудзіравала на факультэтах рускай і беларускай моў Беластоцкага ўніверсітэта. Працавала ў Гімназіі № 7 і НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Зараз працуе ў X Агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку, дзе выкладае рускую мову. Сваім вучням заўсёды кажа: «Школа — гэта вы!»



**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тэмы на ўроках зрэалізаваць можна, але калі ўваходзілі практыкі, то тыдзень быў для нас кароткі.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Кожны год былі ў мяне лаўрэаты прадметнага конкурсу. Вучняў у гімназіі было не многа, але ўзбіралася 34 лаўрэатаў.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Для малых дзяцей так і гэта ўжо цешыць. На жаль, гэта не датычыць старэйшых.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

...

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Люблю тутэйшых аўтараў, з Падляшша. Апошнім часам трапіў у мае рукі старызборнік вершаў ліцэістаў з Бельска.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Актуальна, у гэты цяжкі па прычыне эпідэміі каранавіруса час, чытаю маім дзецям знойдзеную на паліцы кніжку, напісаную маімі вучаніцамі (ужо выпускніцамі) кніжку «Муха ціп-топ».

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Чытаю «Ніву» і інтэрнэт дае вялікія магчымасці.

**— Якая, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— У маім календары заўсёды мусіць быць месца на Бардаўскую восень, Басовішча, а ў Бельск вяртаюся на Спасаўскія запусты. Вельмі цікавы для мяне Тэатральны фестываль «Одэ».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Гэта бывае па-рознаму.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Як у жыцці, бывалі і цяжкія моманты, але ўспамінаю толькі добрыя хвіліны.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Хуткае жыццё.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Мае выпускнікі гэта здольныя, працавітыя, цікавыя жыцця людзі і напэўна пра іх не раз пачуем.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Цяжка пісаць пра свае ўзнагароды. Магу сказаць пра дырэктарскія ўзнагароды, Медаль нацыянальнай камісіі і адукацыі, Медаль „Diligentale — za pilność" супольна з маёй выпускніцай, а самая цэнная статуэтка ад вучняў — «Братняя душа».

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу заўсёды дае мне ўсмешка дзяцей і добрыя кантакты з вучнямі.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Зала 308 поўная радасці, смеху, цікавай гутаркі.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Герб Пагоня, цудоўны мастацкі праект маёй вучаніцы.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Калі будуць дзейнічаць супольна, то будзе добра.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Сустрэча з зубрамі

Мне было цікава, адкуль бярэ пачатак адзін з прытокаў Баброўкі. Свайго часу ён быў даволі глыбокі і аднойчы напрадвесні адзін чалавек у ім утапіўся. У сонечны і цёплы дзень 5 красавіка гэтага года выбраўся я на ровары на шырокі прастор надрэчных сенакосных лугоў.

Я ведаю тутэйшую ваколіцу з дзяцінства. Над Баброўкай мы з братам пасвілі кароў ды ездзілі з бацькам на начлег і пасвілі коней. Там, дзе я прадбачваў месца пачатку прытока, там і знайшоў крыніцу. Давай тады ісці берагам ручая а затым рова з зараснікамі кустоўя да рэчкі. Там-сям было макравата, але я брыў і брыў на нішто не зважаючы. Прыток бег то ўлева, то паварочваў направа. Воддаль на лузе бачыў вялікія звійкі-катушкі сена. Я цягнуў з сабою ровар і зачапляўся за купіны высокай сухой мінулагодняй травы і малыя кусцікі вербалозу, падымаў ровар і нёс трымаючы ў руках.

І тут жа дарогу мне перагарадзілі... зубры, цэлы статак. Шчасце маё, што зубры дазволілі мне сысці ўбок і дзыгнуць у лес. Схаваўшыся ў кустах, я налічыў васямнаццаць штук дзікай рагатай жывёлы. Да вусця прытока ў рэчку я так і не дайшоў. Спынілі зубры, блукаючыя на свабодзе. Мо наступным разам пачну ісці ад Баброўкі і вазьму з сабою фотаапарат? Толькі ці прыйдзе сюды знаёмы статак. Па ўсім відаць, што тут ён найлепш сябе адчувае. Мае корм, ваду і спакой.

Прыдалася б тут вышка. Чаму не. На правым беразе Баброўкі ёсць аграрурыстычная кватэра і шмат начлежных месцаў. А зубры сюды занадзіліся. Яны тут тры-чатыры гады з невялікімі перапынкамі. Зімой прыходзяць нават на панадворкі. Ім пахне сена ў стадолах. **(яц)**

## Шудзялаўская гміна

У Шудзялаўскай гміне Сакольскага павета ў больш сарака вялікіх і малых населеных пунктах пражывае 2900 чалавек (на 100 мужчын прыпадаюць 102 жанчыны). Зараз многа старых удоў. У пачатку бягучага стагоддзя ў гміне пражывала больш за 3600 чалавек. У гміне шчыльнасць насельніцтва складае 10 чалавек на адзін квадратны кіламетр. Больш палавіны тэрыторыі гміны займаюць перш-наперш сасновыя лясы і рэдкалессе.

А вось найбольшыя вёскі ў Шудзялаўскай гміне: Шудзялава (700 чалавек), Вярхлессе, Мінкоўцы, Войнаўцы, Паўночны Востраў і Гарчакі. У сярэдніх вёсках Сухінічы, Бабікі, Слоя, Кнышэвічы, Астравок, Мяшкенікі-Вялікія, Шчасновічы, Талькоўшчына, Уснар-Вялікі і Новае Трасцяно пражывае ад 70 да 100 чалавек. Ад 30 да 60 жыхароў налічваюць вёсачкі Зубжыца- Вялікая, Зубжыца-Малая, Казловы Луг, Лазіска, Новы Востраў, Пачапок, Сукавічы, Хмялеўшчына, Гаркавічы, Грыбоўшчына і Езёрэк.

Найменшыя паселішчы гэта Піліпавы Мост, Бярозавы Груд, Падлазіска, Марказы Выган, Белы Луг, Равок і Сухі Груд (ад 1 да 15 чалавек).

Прыгранічная Шудзялаўская гміна (мяжуе з Беларуссю) — на дэмаграфічным мінусе. Вёскі старэюць і з кожным годам становяцца штораз больш бязлюднымі, а некаторыя, калі ўжо ў іх не стане жыхароў, пацыху адыходзяць у нябыт. **(яц)**

## Мой родны кут

З радасцю і болем кожны раз еду ў родныя аселішчы. Пах каснікоў бярозі жнівеньскай зямлі ў загрывачным калоссі — з грыбнымі зацішкамі і начлежнымі досвіткамі, з ціхаплыннай ракою.

З вечнай аскомай недаспелых яблык...

О, родныя мясціны, поле, лес!

Жыццё як сон — як пах майскай чаромхі і садоў. Вочы рады зямлі і сонцу, і зіхатлівасці нябёс. Імгненні ды імгненні.

Гады прамінулі.

Здаецца чуеш, як звініць світальным клічам дрозд, як пахнуць рамонкі на папарах і вецер-ліставей, і першы снег.

Гляджу шырокімі вачыма. І памяць гартае і гартае. **(яц)**


https://estaticos.muyinteresante.es

# От зараза!

Каранавірус спаралізаваў **увесь свет** у пару тыдняў.

На свеце ёсць вірус, што забівае 8 500 дзяцей у дзень, які называецца **голад**. Ёсць лякарства на яго — ежа. Але пра гэта мала хто гаворыць. Багаты «заходні» свет душыцца ад спажывы і не ведае, на якую раскошу выдаць наедак, апантаны прагай лупіць зямлю, жэрці і пра..раць усё што не ў змозе абараніцца перад экспансіяй яго і яго грошай. Краса, культура можа абараніць свет, казаў Дастаеўскі. Але і тая прыгажосць знявечаная, перакручаная нават у выглядзе лупатых персон, зробленых паводле капылу аднаго доктара ад «эстэтычнай» хірургіі. І тыя дактары атрымліваюць проста неверагодныя грошы, без параўнання са звычайнымі медыкамі, якія сёння мруць разам з заражанымі каранавірусам людзьмі рознай нацыянальнасці, расы, полу і статусу.

**Кашляеш,** маеш павышаную тэмпературу цела, дрэнна сябе адчуваеш і разважаеш у страху, ці гэта «звычайны» грып, ці ёсць у цябе каранавірус SARS-CoV-2 і COVID-19? Вось якая розніца паміж вірусамі і гэтымі двума захворваннямі. Каранавірусная інфекцыя з Кітая — афіцыйная назва гэтага захворвання — **COVID-19** — часам параўноўваецца з грыпам, таму што выклікае падобныя сімптомы. Аднак абедзве інфекцыі выклікаюць зусім розныя вірусы. Абодва вірусы маюць падобную форму і атакуюць эпітэлій дыхальных шляхоў. Вірус грыпу і каранавірус SARS-CoV-2 — гэта сферычныя вірусы, якія ўтрымліваюць адзін ланцужок рыбануклеінавай кіслаты (РНК). Абодва маюць рэцэптары, якія дазваляюць атакаваць клеткі эпітэлій дыхальных шляхоў. І вірусы грыпу, і вірус SARS-CoV-2 перадаюцца пераважна праз кроплі (яны прысутнічаюць у часціцах сакрэту з дыхальных шляхоў хворых людзей, у іх мачы і кале) і можна заразіцца стаяўшы занадта блізка да хворага чалавека альбо дакранацца да прадметаў, якія ён раней закрануў, а потым перадаць вірус у рот, нос ці вочы. Сімптомы кітайскай і вірусная інфекцыі грыпу падобныя. Гэта ліхаманка, кашаль, стомленасць, боль у цягліцах, у больш цяжкіх выпадках дыхавіца, боль у грудзях. Абедзве інфекцыі могуць выклікаць сур'ёзныя ўскладненні. Можа развіцца каранавірусная інфекцыя SARS-CoV-2: цяжкая пнеўманія, сепсіс, востры рэспіраторны дыстрэс-сіндром. У выпадку грыпу ўскладненні гэта пнеўманія і бранхіт, якія часта патрабуюць стацыянарнага лячэння, міякардыт, неўралагічныя ўскладненні, міязіт (запаленне цягліц). Абодва вірусы небяспечныя для пажылых людзей і тых, хто пакутуе хранічнымі захворваннямі. Імунная сістэма пацыента не ў стане змагацца з інфекцыяй. Пры абедзвюх інфекцыях інфікаваныя людзі могуць заразіць іншых, перш чым у іх развінуцца сімптомы заражэння.

Таксама існуюць значныя **адрозненні паміж** гэтымі вірусамі і хваробамі, якія яны выклікаюць. Пакуль што COVID-19 лічыцца больш смяротным, чым грып. Паводле ацэнак, паміраюць 2-3 працэнты заражаных каранавірусам. У выпадку сезоннага грыпу смяротнасць складае менш за 1 працэнт (такія даныя былі прадстаўлены на брыфінгу кіраўніком Сусветнай арганізацый аховы здароўя).

Не існуе **лекаў і вакцыны** супраць COVID-19. Працы над ім працягваюцца (у цяперашні час больш за 20 розных прэпаратаў знаходзіцца ў фазе даследаванняў). Аднак можна зрабіць прышчэпку ад грыпу. Грып таксама можна лячыць. Калі вы захварэлі, лекар можа прыпісаць рэцэпт на супрацьвірусныя лекі. Пададзеныя ў пачатку заражэння, памяншаюць яго працягласць і рызыку ўскладненняў.

Новы вірус з Кітая характарызуецца як больш заразны — эксперты падлічваюць, што ў сярэднім кожны чалавек, які захварэў на грып, заражае 1,3 чалавека, а кожны чалавек з вірусам COVID-19 заражае двух чалавек.

Каранавірус **у дзяцей** мякчэйшы, чым грып. Больш за палову хворых на грып складаюць дзеці і падлеткі ва ўзросце да 14 гадоў, што звязана з тым, што іх імунная сістэма яшчэ не цалкам сепелая. Грып у дзяцей часта звязаны з неабходнасцю шпіталізацыі і цяжкімі ўскладненнямі. Наадварот, каранавірусная інфекцыя з Кітая ў дзяцей звычайна вельмі лёгкая: у пераважнай большасці выпадкаў прыкметы заражэння ў іх нязначныя. Вірус з Кітая больш небяспечны для мужчын (у адрозненне ад грыпу, які справядліва атакуе абодва полы).

Ці ёсць у вас грып, ці COVID-19? Гэта можа ацаніць толькі лекар на падставе сімптомаў і інтэрв'ю (у якім ён спытае пра знаходжанне ў апошнія дні ў эпідэмічных зонах, напрыклад у Італіі, альбо пра **кантакт з кім-небудзь** з інфекцыяй) і пацвердзіць спецыялізаванымі тэстамі. Экспрэс-тэсты на грып можна праводзіць у амбулаторыі падчас медыцынскага наведвання: матэрыял для тэсту бярэцца з насаглоткі, і вынік чакаецца 15-30 хвілін.

Каранавірусныя тэсты не праводзяцца ў звычайным рэжыме: яны праводзяцца ў спецыялізаваных навукова-даследчых цэнтрах, калі ёсць абгрунтаваныя падазрэнні на заражэнне: напрыклад, чалавек з сімптомамі COVID-19 вярнуўся з эпідэмічных раёнаў. Час чакання выніку — больш за дзесяць гадзін.

Варта падкрэсліць, аднак, што людзі, якія падазраюць, што яны заражаныя новым вірусам з Кітая, не могуць звязацца з паліклінікай або SOR: яны павінны звярнуцца ў бліжэйшую санітарна-эпідэміялагічную станцыю для далейшага кіравання

Як дзень за днём можа прайсці хвароба і як доўга яна доўжыцца, калі сімптомы мяккія, умераныя або калі яны сур'ёзныя? Пасля заражэння каранавірусам SARS-CoV-2 можа прайсці ад некалькіх да больш за дзесяць дзён, каб хвароба развілася. Можа яна прайсці мякка або ў крайнім выпадку прывесці да смерці пацыента. Пры добрым **прагнозе** сярэдні час, які праходзіць ад з'яўлення першых сімптомаў да выздараўлення, складае каля 17 дзён.

Паводле даных СААЗ, сабраных у Кітаі: у 80 працэнтаў заражэнне было вельмі лёгкім і ўмерана мяккім, 14 адсоткаў — сур'ёзным, а ў 6 працэнтаў — крытычным. Лёгкая форма хваробы не прыцякае як прастуда, але можа прыняць значна больш небяспечную форму. Усе выпадкі, якія не патрабавалі ўвядзення кіслароду, уваходзілі ў гэтую групу. Пацыенты з добрым прагнозам пры пнеўманіі SARS-CoV-2 акрыялі на працягу 2-3 тыдняў...

**Міра ЛУКША**

# Каранавірус

## з пункту гледжання беларуска-польскай прасторы

**Пакупкі ў пальчатках, у краме ўсё менш людзей, абмежаванне руху непаўналетніх, паркі, пляжы і бульвары закрыты — так зараз выглядае рэчаіснасць у Польшчы і іншых краінах свету. Вербніца прайшла без вернікаў, а самі ксяндзы заклікаюць заставацца дома. Каранавірус закрыў нас па дамах і накінуў страх за будучыню нас саміх і нашых блізкіх. Асабліва ў цяжкай сітуацыі апынуліся тыя, якія дагэтуль былі прафесійна ці сямейна звязаныя адначасова з Беларуссю і Падляшшам.**

**Яўген Юнцэвіч: „Адказныя людзі засталіся дома”.**

— Перш за ўсё з-за пандэміі я часова змяніў сваё месца жыхарства і вырашыў крыху даўжэй, чым планаваў, застацца ў Гародні, — кажа **Аляксей Буранок**, які пастаянна жыве і працуе ў Варшаве. — Сядзець 14 дзён на каранціне ў выпадку вяртання ў Польшчу ў мяне няма асаблівага жадання. У Гародні ў мяне родзічы і хоць мы адмыслова амаль не сустракаемся зараз, увесь час стэлефаноўваемся ды гатовыя дапамагчы адзін аднаму. Апрача гэтага зараз я не карыстаюся грамадскім транспартам, хаджу па Гародні пешшу. Апошнія тыдні не сустракаюся з сябрамі.



Яўген Юнцэвіч

— Насамрэч нічога не змянілася, — сказаў фрылансер з Гародні **Яўген Юнцэвіч**. — Адказныя людзі засталіся дома. Як я. Я загадзя набыў антысептык, антыбактэрыйныя сурвэткі, пальчаткі ды мыла і туалетную паперу.

— Каранцін, выкліканы сусветнай пандэміяй, закрануў мяне вельмі моцна, — адзначыў журналіст Радыё Рацыя з Оршы **Арцём Сізінцаў**. — Я мусіў застацца ў Беларусі, куды прыехаў літаральна напярэдадні закрыцця польска-беларускай мяжы. Таму ўжо тры тыдні я не



Арцём Сізінцаў

магу вярнуцца ў Польшчу, дзе асноўная праца і шмат іншых спраў, а таксама сябры, з якімі планаваў сустрэцца ў бліжэйшыя дні. Паводле планаў, я павінен быў наведаць таксама некалькі футбольных матчаў у Польшчы і Нямеччыне, але ў выніку ўсё адменена, межы зачынены, а я пазбягаю нават невялікай кампаніі. Кола людзей, з якімі я сустракаюся ў гэтыя дні ў Беларусі, вельмі абмежаванае. Магу з упэўненасцю сказаць, што такога ў маім жыцці яшчэ не было.

— Канешне, у сувязі з закрыццём мяжы да мяне не можа прыехаць мая шматдзетная сям’я, — адзначыў музыка, паэт і журналіст Беларускага Радыё Рацыя з Менска **Віктар Сямашка**. — Сам я выехаць яшчэ магу, хоць лагістычна гэта значна складаней, чым раней, але ў тым мала рэзону. Бо па прыездзе ў Менск мне трэба будзе самаізалявацца дома на два тыдні згодна з новымі правіламі, а па вяртанні ў Беласток зрабіць тое самае. То-бок, месяц не мець працы ў эфіры. Паколькі ніякіх збераджэнняў я не маю і мой прастой у працы ніхто не кампенсуе, я мушу працаваць у звыклым парадку.

**Як не звар’яцець у час эпідэміі?**

Абвастрэнні з-за каранавіруса становяцца ўсё больш цяжкімі. На самой справе нам нельга рухацца з хаты. У апошні час у сацыяльных сетках з’явілася шмат відэаролікаў, якія паказваюць, як людзі „гуляюць” падчас каранціну. Дыскатэкі на балконах, службы з тэлебачаннем,



Віктар Сямашка

а нават віртуальныя экскурсіі, напрыклад: духоўнае падарожжа па старажытных пілігрымскіх маршрутах.

— З увядзеннем агульнадзяржаўнага каранціну ў Польшчы я знаходзіўся ў Беластоку і змен у ладзе свайго жыцця не адчуў, — адзначыў **Віктар Сямашка**. — У сталіцу Падляшша я прыязджаю выключна дзеля працы. Мой звыклы шлях — ад службовае кватэры да офіса Беларускага Радыё Рацыя і назад. Ніякіх іншых кантактаў, масавых мерапрыемстваў, шопінгу і г.д. Весці эфір дыстанцыйна немажліва, таму я на працы штодзень.

— Амаль штовечар гляджу анлайн канцэрты і спектаклі, — кажа **Аляксей Буранок**. — Спектакляў так шмат, што часам складана абраць — трансляцыі ідуць адначасова, цяжка абраць лепшыя! У Гародні і бліжэйшых ваколіцах горада вельмі шмат цікавых, маляўнічых месцаў, якія, адначасова, малавядомыя і нешматлюдныя. Я стараюся наведваць іх, раблю доўгія пешыя шпацыры.

— Працуюць паслугі па дастаўцы ежы з кафэ і крамаў, інтэрнэт-злучэнне стабільнае, — сказаў **Яўген Юнцэвіч**. — Таму праз *zoom* ці скайп кантактуемся з сябрамі і раблю тыя справы, якія даўно адкладаў у кошык. Нават калі хочацца пайсці на дыскатэку ці ў музей, зараз



Яўген Скрабец

можна далучыцца да анлайн трансляцыі і ўдзельнічаць з хаты. Таму не сумуем.

— У мяне выглядае гэта так, што я асвойваю новую прафесію, спрабую круціць гайкі, разбіраць, рамантаваць і збіраць ровар, — сказаў экскурсавод і журналіст Радыё Рацыя з Берасця **Яўген Скрабец**. — Ад навін (калі не датычыцца працы) дыстанцыянаваўся, бо раздражнае паніка і ажыятаж вакол гэтай сітуацыі. З адпачынку — гутаркі анлайн, праз відэачаты. Стаў пільна мыць рукі. Ну і ўсё. Больш нічога не змянілася. Аааа, часцей стаў глядзець выказванні Аляксандра Лукашэнкі і глядзець асветніцкія каналы сацыяльна-бытавой і эканамічна-дзелавой тэматыкі.

**Віктар Сямашка: „Сітуацыя змушае ўсіх задумацца пра жыццёвыя прыярытэты, заняцца самааналізам, больш думаць пра блізкіх”.**



Аляксей Буранок

У набажэнствах на Вербніцу заўсёды поўныя касцёлы, таму што ў каталікоў гэта яна распачынае Вялікі тыдзень. Зараз не толькі ў касцёлах у Польшчы, але нават на плошчы Святога Пятра не было людзей з пальмавымі галінкамі. Падчас казання папа Францішак гаварыў, між іншым, пра мужнасць: „Сёння, у драме пандэміі (...), перад абліччам шматлікіх здраджаных чаканняў, у пачуцці пакінутасці, якая ахапляе наша сэрца, Ісус кажа да кожнага з нас: — Мужнасці, адкрый сваё сэрца на маю любоў. Адчуеш суцяшэнне Бога, які цябе падтрымлівае”.

З-за каранавіруса польскі ўрад адназначна рэкамендуе адмовіцца ад падарожжаў і застацца дома ў Вялікдзень. Таксама правядуць святы нашы сябры з Беларусі.

— Дома, усё дома. Выходзіць у месца вялікага згуртавання людзей не буду, — сказаў **Арцём Сізінцаў**.

— У коле сям’і цяперашняй: з мамай і бабуляй, — сказаў **Яўген Скрабец**. — З астатнімі — анлайн. Ужо дамоўлена

— Відавочна, што цяперашняя сітуацыя змушае ўсіх задумацца пра жыццёвыя прыярытэты, заняцца самааналізам, больш думаць пра блізкіх — і ў гэтым хаця б нейкі плюс, — кажа **Віктар Сямашка**. — Спадзяюся, што пандэмія праз усе пакуты і доўгатэрміновыя наступствы зменіць наша жыццё да лепшага. У прыватнасці вірус прадэманстраваў наколькі слабыя і безадказныя аўтарытарныя рэжымы перад падобнымі пагрозамі і наколькі можа быць рашучым і гуманным кіраўніцтва дэмакратычных краін. Хаця наступны верш у мяне атрымаўся не такім пазітыўным, бо за кароткі час у Беларусі памерлі двое знаёмых.

*нядзельная цішыня*
*памножаная на*
*гарадскі карантын*
*можаш прачнуцца заўтра*
*ў цэлым месце адно булькочуць птушкі*
*хістаюцца токам званы*
*ў касцёле пустым*
*ад свечак дым*
*звонку вятроў табуны*

**Уршуля ШУБЗДА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Nasz w-f jest zaraźliwy!

За акном расцвітае вясна, а мы сядзім у хаце і глядзім у маніторы камп'ютараў і смартфонаў. Нішто не цешыць. Нават Вялікдзень здаецца нейкім абавязкам. Найгоршы стрэс ад школы — трэба анлайн вывучыць урокі.

— Гэта такая нуда, не расказаць, — прызнаецца Міколка, — выконваеш загады як робат і адразу пра ўсё забываеш. Адным вухам уваходзіць — другім выходзіць. Нішто не заменіць жывых урокаў, кантактаў з сябрамі. Не хапае мне жартаў, а нават сварак і крыкаў настаўнікаў...

Міколка абяцае, што пасля каранціну будзе гуляць ад рання да вечара на панадворку. А наколькі ў перадвелікодны час ён заўсёды ідзе ў царкву паспавядацца, пяцікласнік заяўляе яшчэ пра «грахі», якія трэба выкінуць з сябе перад святам:

— Можа то кара за тое, што раней дзень і ноч у смартфонах сядзелі!

Але не ўсе наракаюць на хатнюю навуку праз пасрэдніцтва камунікатараў.

— Мне падабаецца, калі з мамай аглядаем фільмы, — кажа Уля. — Вось, учора мы разам паглядзелі два фільмы на аснове кніжак, якія трэба прачытаць на ўрокі польскай мовы.

— А чаму не возьмеш кніжку ў рукі, — пытаем, — ды не прачытаеш цэлага апавядання ці драмы?

— На гэта трэба многа часу, — кажа васьмікласніца, — і цярплівасці. Праўда, можна прачытаць нешта ў смартфоне, але гэта не тое. Такія чытанкі мяне стамляюць, баляць ад іх вочы...

Улі найбольш падабаюцца ўрокі фізкультуры ў рэжыме анлайн. Спачатку яна атрымлівае задачу ад настаўніцы. Пакуль запіша сябе на камеру і адашле гатовы матэрыял настаўніцы, яна думае які падабраць фон, якую паставіць музыку да сваіх практыкаванняў.

— І думаю, каб прыгожа выглядаць, — дадае, — тады ўсё з сабой іграе.

Сам запіс трывае пяць хвілін. Але важная падрыхтоўка, якая патрабуе крэатыўнага падыходу да справы і займае больш чым 45 хвілін.

— У пэўным сэнсе гэта прэзентацыя, — адзначае Уля. — Трэба не толькі паказаць сваю фізічную спраўнасць, але і мастацкія здольнасці. Вось яе «ўрок фізкультуры» зрабіў фурор, таму што разам з ёй у кадры апынулася котка, якая пад музыку дугой выгінала спіну. Іх шоў атрымаў подпіс: Nasz w-f jest zaraźliwy! Нашу сяброўку хвалілі за тое, што яна ўмее жартаваць у цяжкіх хвілінах. Ідзе пра слова «заразьлівы», якога сёння баяцца больш як агню.



У час каранціну многія бацькі чытаюць сапраўдныя кніжкі для дзетак. Вось у гэтым нумары «Нівы» настаўніца Альжбета Рудкоўская апавядае, як у час каранціну яна сама чытае сваім хлопцам «Муху Ціп-Топ». Гэта беларуская кніжка-комікс, пра нялёгкае, але вясёлае жыццё беластоцкіх гімназістаў, якую напісалі карэспандэнткі «Зоркі». Кніжка трапіла да ўсіх дзяцей, якія падпісваліся на «Ніву» і яна можа знаходзіцца таксама на вашай кніжнай паліцы. У час навукі анлайн жывая чытанка — гэта сапраўдная радасць і подых прыгоды. Кніжкі на роднай мове наблізяць нас яшчэ да святочнай атмасферы, якую ў гэтым годзе самі сабе запраектуем.

**Зорка**

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Курган** быў звычайным элементам у старажытныя часы і заяўляў пра бурлівы або слаўны перыяд у жыцці жыхароў месца. Ён уяўляў сабой зямны насып, у якім хавалі памерлага князя або слаўнага ваяра. Сярод народных назваў курганоў сустракаюцца Валатоўкі, Капцы, Татарскія магілы, Шведскія могілкі, Сінія горкі, Сярэбраныя горкі, Княжыя горкі.

У Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці ёсць курганы з назвай Змеевы магілы. Паводле легенды, тут, у возеры, жыў змей, які еў жывёл і людзей. Але аднойчы з'явіўся асілак і пасек яго на тры часткі, ды над кожнай з іх людзі насыпалі курганы. Зямлю, каб пачвара не адрадзілася з частак, вазілі ў возках, запрэжаных у пеўняў.

Звычайна курганы лічыліся не «сваімі». Іх звязвалі з волатамі, асілкамі, якія жылі ў эпоху першастварэння зямлі. Верылі, чым большы курган, тым больш знатны чалавек там пахаваны. Часта курганы расказвалі пра войны, нашэсці — людзі лічылі, што групы курганоў узнікалі ў выніку масавай гібелі чужынцаў, салдат ці ваяроў, якіх хавалі ў брацкіх магілах. Вялікі адзіночны курган мог быць цэнтрам паселішча. Такую менавіта з'яву сустракаем у паэме «Магіла Льва», дзе курган ваяра Машэкі даў пачатак гораду Магілёву.

Як не цікава, свае вясковыя могілкі беларусы супрацьстаўлялі курганам, бо на іх хавалі людзей, якія памерлі сваёй, прыроднай смерцю.

З курганамі звязаных шмат павер'яў. Верылі што там злучаўся свет людзей са светам памерлых. Казачны герой часта звяртаўся да Бога, менавіта, на кургане. У некаторых месцах, курганы абыходзілі шырокім колам, верылі што там блукаюць духі памерлых.

У такіх месцах шукалі таксама заклятых скарбаў. Праўда, там часта знаходзілі залатыя прадметы, біжутэрыю ці манеты, якія былі неадлучнай часткай пахавальных рытуалаў і абрадаў, калі вялікіх князёў ці ваяроў хавалі не толькі з каштоўнымі прадметамі, але і канём ды служкамі. Такія «скарбы» адабраныя памерлым, — як верылі нашы продкі, — маглі наклікаць хваробы або няшчасці, таму капаць курганы сурова забаранялася. На такое маглі рашыцца толькі авантурнікі-прайдзісветы, якіх лічылі пасланцамі родам з пекла.

*(Адрэзак паводле «Міфалогіі для дзяцей» Алесі Коршак.)*

**(гак)**

## УВАГА КОНКУРС! № 15-20

Рук многа,
а нага адна?
Д....

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 19 красавіка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 11-2020: мост. У гэты раз не было правільных адказаў.**

# Баб'ягорац і пошасць

## (беларускія легенды)

Калісьці для людзей найвялікшым няшчасцем быў не пажар, не голад і нават не вайна, хоць яны здараліся вельмі часта, але пошасць або зараза, ці, як цяпер кажуць, эпідэмія. Пошасці розных хвароб вынішчалі цэлыя вёскі, гарады і нават краіны.

У вёсцы Баб'я Гара, што знаходзіцца на высокім пагорку паміж ракой Нарвай і паўночнай ускраінай Белавежскай пушчы, мне расказвалі такое. Калі даходзіла чутка да вёскі, што недзе непадалёк паявілася пошасць, мужчыны запрагалі ў ярмо сівога вала і абворвалі сахой навокал вёску, каб хвароба не перайшла цераз баразну. У тым жа часе жанчыны і дзяўчаты збіраліся разам і за адну ноч напрадалі з ільну нітак і вытыкалі з іх ручнік-ахвяру, які перад узыходам сонца павязвалі на крыжы, што стаяў на канцы вёскі. Зразумела, што ўсё гэта не магло перашкодзіць пошасці. І яна, быццам бы, калі ўварвалася ў вёску, імчалася па вуліцы ды касцянымі сваімі пальцамі стукала ў вокны хат, крычала: «Была бяда, была бяда, а цяпер будзе вам ліха!»

І вось аднойчы, калі так бегла пошасць па вуліцы Баб'яй Гары і стукацела па вокнах, адзін баб'ягорац сядзеў сабе на прызбе сваёй хаты ды пакурваў люльку. Пыхнуў цэлую хмару дыму раз, пыхнуў другі, а калі пыхнуў трэці, бачыць — мара нейкая белая каля акна яго хаты стаіць ды касцяным пальцам у шыбіну стукоча. Баб'ягорац, доўга не думаючы, — цап яе за касцяную руку ды і кажа:

— Дзеці і жонка паснулі, перастань барабаніць!

— Ах, дык ты асмеліўся мяне за рукі чапаць! — узлавалася мара. — Ці ты не ведаеш, хто я?!— ускрыкнула яна.

— Адкуль жа мне ведаць, панечка?.. — атрупянеў са страху баб'ягорац ды задам да дзвярэй свае хаты пачаў падавацца.

— Ну, дык ведай: я — сама халера! — выкрыкнула яна ды так дзіка зарагатала, што ў баб'ягорца ад жаху аж мову адняло ды з заляскацеўшых зубоў люлька выпала.

— Чаго затросся? — накінулася на яго халера. — Пакуль я цябе ўмару, ты мне яшчэ патрэбны да іншага. Бач, я ўжо зусім прыстала, пехатою па свеце бегаючы. Бяры мяне на свае плечы ды насі па свеце. Толькі не абмінай ніводнага сяла ні горада. Калі пастараешся, дык пажывеш яшчэ крышку.

Сказала яна так баб'ягорцу ды на плечы яму ўзабралася.

Паправіў той жудасную ношу на плячах і адчувае, што яна не толькі лёгкая, але зусім, бы тое паветра, вагі не мае. Падумаў ён сабе: «Вядома, мара ж яна» ды павалокся да бліжэйшага сяла.

У тым сяле якраз мужчыны пад яравое поле аралі, жанкі ў гародах варыва садзілі, а дзеткі-малалеткі на вуліцы, каля хат сваіх, забаўляліся. Убачыла гэта мара, скрыганула са злосці зубамі ды махнула сваёй белай плахтаю, што ахутвала яе касцістае цела. Пайшоў ад плахты смяротны павеў і ад яго пачалі мерці мужчыны, жанчыны і дзеці там, дзе хто ў тую пару знаходзіўся. Як прайшоў баб'ягорац з марою па тым сяле — адны пустыя сцены хат асталіся.

Пабрыў баб'ягорац адтуль у мястэчка. А там па корчмах балі, спевы ды весялосць на кожным твары. Але як толькі ён затрымаўся на рынку ды мара ўзмахнула сваёй плахтаю — спынілася адразу музыка, змоўклі песні, боль пакарэжыў людскія твары. Куды ні глянь — усюды вуліцы ды панадворкі трупы ўсцілаюць, труна за труною на могілкі плывуць, а там ужо і месца не хапае памерлых хаваць.

Наглядзеўся баб'ягорац на гэтую жудасць, абамлелі ў яго рукі ды ногі і сэрца крывёй аблілося ад жаласці да людзей. Прысеў ён на прыдарожны камень і цяжка ўздыхнуў, а мара яму на тое:

— Што, жыццё табе надаела?!

Воляй-няволяй падняўся ён ды пасунуўся куды вочы глядзяць. Але ўсё так меркаваў, каб па лясах, пустэчах ды багнах хадзіць, дзе меней людзей сустракаецца. Заўважыла яго хітрыкі мара ды кажа:

— Ты глядзі, каб я цябе мёртвым на якой-небудзь пустэчы не пакінула!

І давялося баб'ягорцу насіць мару па вёсках ды гарадах. Насіў ён яе, насіў, доўга ці коратка, ажно і ў свае родныя бакі прыблукаў. Бачыць: за рэчкаю на пагорку яго родная вёска стаіць. Усплылі ў яго перад вачыма родныя дзеткі-малалеткі, старыя бацька ды маці і любая сэрцу жонка. Зашчымела ягонае сэрца ад болю, а мара тым часам падганяе:

— Чаго стаў? Ці ж табе даражэй жыццё тваіх родных, чым сваё ўласнае?!

Выбраў тады баб'ягорац месца ў Нарве найглыбейшае ды ўброд у раку пайшоў. Ішоў і з кожным крокам усё глыбей у ваду акунаўся. Моцна-моцна ўхапіў ён за касцістыя ногі мару ды цалкам пад ваду пайшоў. Але мара, як паветра, усплыла над вадою. Баб'ягорац жа так і застаўся на дне віру.

Перапужалася мара такой настойлівасці баб'ягорца, які свайго жыцця не пашкадаваў, каб толькі ўратаваць ад смерці родных дзяцей, бацьку, маці, жонку ды сяло. Пабегла яна спачатку ў Белавежскую пушчу. Паблукала па ёй некалькі дзён, а потым цалкам з гэтых бакоў у іншыя краі падалася.

Так вось і выратаваў баб'ягорац ад смерці не толькі сваю сям'ю, радню ды вёску, але і ўсё наваколле.

*(Паводле легенды, запісанай і апрацаванай Міколам Гайдуком, надрукаванай у «Зорцы» ў 1976 годзе.)*



## Польска-беларуская крыжаванка № 15-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 11-2020:**

Мара, лёс, Алік, сёння, клён, ого, лік, яр, смак, яда, кут, Юры. Ляснік, лён, квартал, лёнік, мін, мара, яр, ягада, ар.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Дар'я Саковіч**, **Алівія Козел** з Міхалова, **Мая Куптэль**, **Якуб Васільчык**, **Юля Саўчук** з Нараўкі. Віншуем!



# Зачараваны Бібліяй.
# Песня песняў Марка Шагала

***У жывапісу ёсць толькі адзін колер — колер кахання...***
***Марк Шагал***

„Ад юнацтва прыцягвала мяне Біблія. Мне заўсёды здавалася і да гэтага часу здаецца, што яна самая вялікая крыніца паэзіі ўсіх часоў. Біблія падобная на рэзананс прыроды, і гэтую таямніцу я спрабаваў перадаць... але я не чытаў Біблію, я яе сніў", — казаў Шагал. І працягваў: „Біблія — самы вялікі ў свеце твор мастацтва. Біблія ўтрымлівае ў сабе высокі ідэал быцця чалавека на планеце Зямля"; „калі б людзі больш уважліва чыталі прарокаў, яны там маглі б знайсці адказы на самыя розныя пытанні быцця, аж да атаясамлення светабудовы з любоўю: «Без любові наш свет — крок за крокам — будзе набліжацца да канца»". Гэта зачараванне Бібліяй Марк Шагал здолеў перадаць у сваіх творах.

Песня песняў складаецца з 1250 габрэйскіх слоў, усяго з 1250 слоў, але духмяных каханнем. Гэта паэма дыхае каханнем. Дыхаюць каханнем і карціны Шагала з цыклу „Песня песняў".

Песня Песняў І. Вечар. Увечары нявеста шукае сваё каханне на вуліцах Іерусаліма.

„Няхай вусны яго мяне пацалуюць! Бо лепшыя за віно твае ласкі" (Песня 1:2).




*Песня Песняў І. Марк Шагал (7 ліпеня 1887 г., Лёзна, Беларусь — 28 сакавіка 1985 г., Сен-Поль-дэ-Ванс, Францыя). Ніца. Нацыянальны музей Марка Шагала, Біблейскае пасланне, (Францыя). Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе*

Што зашыфраваў Марк Шагал у сваіх палотнах? Напэўна кожны ўбачыць нешта сваё. Кажуць, што дзеці бачаць на гэтых карцінах нашмат больш, чым дарослыя...

Вечар. Пачатак новага дня ў габрэйскай традыцыі. Нявеста прынікла да жаніха: „Пячаткай мяне пакладзі на сэрца сваё..." (Песня 8:6). Нявеста глядзіць у раскрытую кнігу, у руцэ трымае букет. Над жаніхом белая галубка — сімвал Святога Духа, міру і любові. „Яго левая — пад маёй галавою, а правай рукою мяне абдымае" (Песня 2:6). Усё разам — яднанне народа Ізраіля (нявеста) з Богам. Ад жаніха і нявесты па дыяганалі ўверх, у будучыню, стромкія лініі вядуць да ўтваранай сям'і, побач з якой пусты трон для патомкаў Давіда і месяц, і белы голуб. У левым верхнім куце ў рошчы жаніх грае на флейце. Да яго бяжыць нявеста. Магчыма ўспамін аб страчаным раі з каляровымі жывёламі. Справа Дрэва Жыцця з белай жывёлай у яго кроне. Пад дрэвам пастушок грае на флейце і побач пасуцца авечкі. „Ты скажы, каханне маёй душы, дзе ты пасвіш? дзе апоўдні ты адпачываеш? навошта бадзяцца мне каля статкаў сяброў тваіх?" (Песня 1:7). Горад накіраваны вертыкальна ў неба да Новага Іерусаліма... У горадзе дзяўчына: „Устану, і горад увесь абыду, па вуліцах і па завулках, шукацьму таго, каго сэрцам кахаю, я шукала яго, не знайшла" (Песня 3:2).

Песня Песняў ІІ. Ноч. „Заклінаю вас, Іерусалімскія дочкі, сарнамі ці палявымі ланямі: не будзеце і не турбуйце каханай, пакуль не прачнецца сама!" (Песня 2:7).




*Песня Песняў ІІ. Марк Шагал (1887-1985). Ніца. Нацыянальны музей Марка Шагала, Біблейскае пасланне, (Францыя). Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе*

Каханая спіць так моцна, як у мацярынскай утробе. „Мне мой мілы — як ладанка з мірай; начуе ў мяне на грудзях..." (Песня 1:13). Але гэта сон прарочы. Не аднойчы напісана ў Бібліі, як Бог прыходзіў да сваіх абранцаў у сне. „Я сплю, а сэрца маё чувае; вось, голас каханага, які стукаецца: «Адчыні мне, сястрыца, каханая, мая беспахібная, чыстая горлінка, бо галава мая — абрасілася, мае кучары — у начной вільгаці»" (Песня 5:2). Выгнутая пакручастая лінія злучае два люстрана адбітыя гарады з небам. Верхні горад Сен-Поль-дэ-Ванс, дзе Марк Шагал правёў апошнія гады жыцця, і люстрана адбіты родны Віцебск, дзе ён нарадзіўся і якога ніколі не забываў. З гарадоў рука (Божая?) паказвае на месяц. Справа побач з каханай лазурны жаніх з крыламі і арфай у руках. Тут жа Дрэва Жыцця, карані якога ў небе, а крона з пладамі накіравана да зямлі. Пад жаніхом пусты трон і гуляюць побач два львяняці...

Песня Песняў ІІІ. У дзень шлюбу.

"Выходзьце, дзяўчаты, на цара Саламона зірнеце, дочкі Сіёнскія, на вянок, якім яго маці ў дзень вяселля ўвянчала, у дзень радасці сэрца ягонага" (Песня 3:11).




*Песня Песняў ІІІ. Марк Шагал (1887-1985). Ніца. Нацыянальны музей Марка Шагала, Біблейскае пасланне, (Францыя). Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе*

Тры авалы вырысоўваюць мацярынскі жывот і грудзі — сімвал дзвюх Скрыжалей Завету. Падобна беласнежнай камеце, імчыць ад зямлі ў неба пад вясельным балдахінам нявеста, забіраючы з сабою каханага. „Каханы аддадзены мне, я — яму..." (Песня 2:16). Сплецецнасць фігур закаханых азначае святасць іх шлюбу як чароўнага спрадвечнага стану чалавека, які дае яму паўнату ў саюзе з іншым і самім Богам. Дабраслаўленне закаханым нясе анёл — слуга Бога і выканаўца Яго волі. Ён ляціць і трымае ў руцэ Менору. Але рука анёла ў гэтак ненатуральнай позе, быццам яна належыць самому Богу.

Крыху ніжэй постаць яшчэ аднаго анёла, які радасна трубіць у рог шчасця. Над ім белы голуб, падобны да выпушчанага Ноем з каўчэга і які прынёс аліўкавую галінку Дабравесця жыцця і з'яўляецца сімвалам Святога Духа. Цыркавы артыст трубіць, апіраючыся рукамі на вялікага пеўня. Ідзе вясельны абрад, які суправаджаецца весялосцю, смехам, гульнёй і танцам, і азначае пачатак новага жыцця для закаханых. Сіняе дрэва з белымі водбліскамі на кроне, яшчэ ніжэй зялёнае дрэва з пладамі на ім, а паміж імі чалавечая постаць з рысамі і мужчыны, і жанчыны адначасова, вобраз раю з Дрэвам Жыцця і Дрэвам пазнання дабра і зла і першароднага чалавека.

Два гарады змешчаны ў жываце жанчыны. Панарама Сен-Поль-дэ-Ванса са званіцай кафедральнага сабора, як вобраз сучаснага, і перавернуты выгляд роднага Віцебска з зялёным купалам царквы, як зварот да мінулага свайго роду, зямлі запаветнай, якую мастак заўсёды насіў у сабе. Нешта дагары нагамі нясе рабін...

Чырвоны колер, які запаўняе ўсю прастору палатна, льецца патокамі, сімвалічна злучае ў сабе і чалавечую, і боскую любоў так, што дзве волі — зямная і нябесная — аказваюцца сугучнымі.

Песня Песняў IV. Поўдзень. Чалавечы саюз знак Боскага Запавету.

"Пакуль не астыў яшчэ дзень, не пасланіся цені, я ўзыду на пагорак міравы, на гару фіміямную" (Песня 4:6).




*Песня Песняў IV. Марк Шагал (1887-1985). Ніца. Нацыянальны музей Марка Шагала, Біблейскае пасланне, (Францыя). Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе*

На цёмна-чырвоным фоне ружовы сінягрывы конь з рознакаляровымі крыламі і букетам кветак у пярэдніх нагах імчыць Давіда і Вірсавію. Адценні чырвонага і ружовага — гэта не толькі сімвал пачуццёвай любові, але і кроў, якая пральецца, калі Давід, каб атрымаць Вірсавію, адправіць яе мужа ў бой, дзе той памрэ. „Пячаткай мяне пакладзі на сэрца сваё, пакладзі на рукі, як пярсцёнак: бо каханне, як смерць — моцнае; рэўнасць, як пекла — лютая; стрэлы яго — стрэлы вогненныя; яно — полымя непагаснае" (Песня 8:6).

Беласнежны вэлюм нявесты шлейфам лунае па небе. „...знайшла, каго сэрцам кахаю; прывяла яго ў дом сваёй маці..." (Песня 3:4). Бог-жаніх, на галаве якога карона, сімвал улады. Нявеста-народ, чыстая душа чалавечая, якая імкнецца да саюзу з Богам.

Народ Іерусаліма вітае маладых. У левым куце анёл сваёй музыкай падтрымлівае ўрачыстасць. Справа Дрэва Жыцця і над ім птушка дагары нагамі (хоць дзіцца па небе?). „Вялікія воды не могуць любві патушыць, і рэкі яе не затопяць. Калі б хто даваў багацці дома свайго за любоў, іх адхілілі б з пагардай". (Песня 8:7).

Песня Песняў V. Сусветны і вечны запавет паміж людзьмі і Богам.




*Песня Песняў V. Марк Шагал (1887-1985). Ніца. Нацыянальны музей Марка Шагала, Біблейскае пасланне, (Францыя). Марка пошты Грэнады, выдадзеная ў 1986 годзе*

Перад нявестай у бялюткім адзенні жаніх, які грае на ліры. „Каханы мой белы, румяны, з тысяч самы найлепшы" (Песня 5:10). „Ды адна яна, беспахібная, чыстая горлінка..." (Песня 6:9). Над галавой жаніха дзве птушкі чырвоная і белая злучаюцца ў адзінае. Пад нагамі два гарады Сен-Поль-дэ-Ванс і Віцебск зліліся ў адзін. На беразе Ракі Жыцця Дрэва Жыцця і Новы Іерусалім, над якім Божая рука і лятаюць анёлы. У нізе карціны сіні конь у кароне, трон заняты двума ільвянятамі, рука трымае адчыненую Кнігу, якая прачытана і пачута. „...цар мяне ўвёў у харомы свае!" (Песня 1:4).

Карціны Шагала падобныя на сон, сон казачны, чароўны і непаўторны... Яны заварожваюць не толькі колерывай гамай, але надзвычайна насычаныя таямнічым загадкавым зместам, які заклікае калі не да філасофскага асэнсавання, то да звароту ў сваю сутнасць.

У Ніцы (Францыя) знаходзіцца Нацыянальны музей Марка Шагала Біблейскае пасланне, а ў ім у аддзельным пакоі пяць карцін, прысвечаных Песні песняў.

Той, хто ўбачыў карціны Шагала ў музеі Ніцы, выходзіць з музея іншым чалавекам. Бо немагчыма выйсці тым самым.

На беларускую мову Песню песняў пераклаў Васіль Сёмуха. Звяртаючыся да чытача, ён напісаў:

„Гэта кніга пра Любоў і Каханне. Калі ты габрэй, — чытай, бо гэта пра любоў Бога да богавыбранага габрэйскага народу і пра любоў народу да свайго Бога; калі ты хрысціянін, — чытай, бо гэта кніга пра духоўны шлюб Хрыста з нябеснай нявестай — Царквою, Святога Духа з Дзевай Марыяй, чалавечай душы з Богам-Любоўю; калі ты атэіст, альбо, крый Божа, «праваслаўны атэіст» — чытай, бо гэта зборнік старажытнагабрэйскай любоўнай лірыкі пра зямное каханне мужчыны і жанчыны. І кожны хай знойдзе сваё! І кожнаму хай будзе добра на сэрцы".

**Лявон КАРПОВІЧ,**
Луна-Воля

# Вучні добра справіліся з конкурснымі задачамі

Частка вучняў працавала з тэстамі амаль да канца прызначанага на конкурс часу, але многія раней справіліся з задачамі апошняга этапу Ваяводскага конкурсу па беларускай мове для вучняў падставовых школ. Праходзіў ён 4 сакавіка ў актавай зале Комплексу школ з дадатковым вывучэннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Да ваяводскіх спаборніцтваў конкурсу прыступілі 24 вучні пачатковых школ Беласточчыны. Ажно 16 з іх здабылі званне лаўрэата, а апошнія сталі фіналістамі. Настаўнікі, рыхтуючы да конкурсу, намагаюцца зацікавіць сваіх вучняў беларускай літаратурай, мовай і традыцыямі. Прадметны конкурс па беларускай мове дае вучням магчымасць спраўдзіць веды і ўмеласці, якія здабылі на ўроках роднай мовы і пазаўрочных занятках, а званне лаўрэата прадметнага конкурсу адкрывае ім уступ у выбраную сярэднюю школу.

— Са школьнага этапу конкурсу, у якім прыняло ўдзел больш за сто асоб, да раённых аглядаў былі кваліфікаваны каля пяцідзесяці вучняў. Да апошняга этапу конкурсу было закваліфікаваных 26 асоб, але канчаткова прыступілі да яго 24 вучні, — паведаміў настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Ян Карчэўскі і заадно каардынатар Ваяводскага конкурсу па беларускай мове ды старшыня конкурснай камісіі.





Удзельнікі конкурсу

Выходзячы з актавай залы белліцэя вучні падыходзілі да сваіх настаўнікаў беларускай мовы або бацькоў, якія прывезлі іх у Гайнаўку, і дзяліліся ўражаннямі ад конкурсу. Перад апошнім этапам конкурсу вучні хваляваліся больш, чым раней, паколькі званне лаўрэата прадметнага конкурсу адкрывае ўступ у выбраную сярэднюю школу. Вельмі залежала на атрыманні гэтага звання вучням з Беластока, якія хочуць працягваць навуку ў самых прэстыжных ліцэях у сталіцы нашага ваяводства, у якія нялёгка паступіць. Мікола Здрайкоўскі і Кандрат Косцін вучацца ў Пачатковай школе № 53 з двухмоўнымі аддзяленнямі, якая дзейнічае пры II Агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку.

— У час конкурсу была магчымасць праверыць, ці добра ведаем родную мову. Доўга я вучыўся і цяпер буду чакаць вынікаў конкурсу. Задачы былі разнароднымі. Трэба было нам пераказаць змест апавядання «Арабінавыя пацеркі» Артура Вольскага. Апісвалі мы постаць гусляра з паэмы «Курган» Янкі Купалы і адзначалі правільныя адказы на пытанні на падставе гэтай паэмы, выконваючы закрытую задачу. Знаходзілі мы рысы характэрныя тытульнай постаці з верша «Рукі маці» Максіма Танка. На падставе фрагментаў тэксту «Давыд Гарадзенскі» Вольгі Іпатавай трэба было адказваць на пытанні. Выконвалі мы таксама практыкаванні з простымі і складанымі сказамі. Я ўжо пяты раз прымаю ўдзел у прадметным конкурсе па беларускай мове для вучняў падставовых школ. Рыхтуючыся да конкурсу, працаваў па прапанаваных для аналізу тэкстах па літаратуры і граматыцы, — расказаў Мікола Здрайкоўскі з ПШ № 53 у Беластоку, які чарговы раз стаў лаўрэатам конкурсу па беларускай мове.

Вучням трэба было таксама ўпарадкаваць храналагічна паасобныя этапы беларускага вяселля (дзявочы вечар, сватанне, заручыны, допыты, розгляды і шлюб) і ўпісаць адпаведныя словазлучэнні, звязаныя з вяселлем. Знаходзілі яны ў тэксце і запісвалі сінонімы падазеных слоў. Конкурсанты запісвалі назоўнікі ў адпаведным склоне, займеннікі — у адпаведнай форме, а лічэбнікі — словамі і ў патрэбнай форме.

— Трэба нам было дакладна праверыць, ці добра выканалі задачы па граматыцы, дзе маглі зрабіць памылкі. Аднак гэтыя практыкаванні таксама патрэбныя, бо на іх падставе можна спраўдзіць, як ведаем беларускую мову, — заявіў Кандрат Косцін з беластоцкай ПШ № 53.

— Зараз складана сказаць, як мы справіліся з тэстам. Задачы не былі асабліва складанымі, але маглі мы зрабіць памылкі, — сказалі Анна Баравік і Юліян Рамانюк з ПШ № 4 у Гайнаўцы, якіх да конкурсу падрыхтавала Людміла Грыгарук.

По прапанаваным для конкурсу матэрыяле працавалі разам з настаўніцай Алінай Ваўранюк Кацярына Іванюк і Марыя Пякарская з ПШ № 4 імя Сібіракоў у Беластоку. Займаліся яны ў школе і дома, аналізуючы многа тэкстаў па літаратуры і паўтараючы матэрыял па граматыцы.

— Я беларускай мове вучыўся, калі жыў у Беларусі і таму не было складана справіцца з задачамі па граматыцы. Арганізацыйна дапамагла мне настаўніца расійскай мовы, якая выслала маю заяўку на конкурс, — сказаў Максім Кавэцкі з ПШ № 5 імя Уладзіслава Бранеўскага ў Беластоку.

Кацярына Астапчык з ПШІ № 1 Грамадскага асветнага таварыства ў Беластоку беларускай мове паспяхова вучылася ў Мінску — сталіцы Беларусі, таму пытанні па граматыцы і літаратуры не былі ёй складанымі. Іван Карсунскі з НПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку ўжо чарговы раз прыняў удзел у конкурсе. Для яго конкурс за кожным разам з'яўляецца праверкай ведаў і ўмеласцей, але заўсёды апасаецца, ці не зрабіў памылак. Іншыя вучні Кірыла-Мяфодзіеўскай школы таксама хваляваліся за рэзультат конкурснага змагання.

— Рыхтуючы сваіх вучняў, займалася я з імі па граматыцы і прапанаваным матэрыяле па літаратуры і іншых дзялянках да паасобных этапаў конкурсу, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў Кірыла-Мяфодзіеўскай школе Іаанна Марко.

Найбольшую колькасць удзельнікаў ваяводскага агляду конкурсу склалі вучні з Беластока. Многа вучняў прыехала таксама з ПШ № 3 з Бельска-Падляшскага. Вучні з бельскай «тройкі» былі добрай думкі аб рэзультатах сваёй працы з тэстам. Аднак апасаліся, што маглі зрабіць памылкі па граматыцы і ў час пісання прац па літаратурных творах.

— Я першы раз удзельнічала ў конкурсе па беларускай мове. Доўга рыхтавалася да апошняга этапу разам з маёй настаўніцай беларускай мовы Уршуляй Шубздай і думаю, што добра справілася з тэстам, — сказала Юлія Гжэсь з НПШ у Залуках.

Габрыся Вільдовіч з ПШ у Гарадку таксама доўга рыхтавалася са сваёй настаўніцай Альжбетай Раманчук, паўтараючы матэрыял па літаратуры, граматыцы і працуючы па прапанаваных для аналізу тэкстах і таму ўдалося ёй дайсці да апошняга этапу конкурсу. Марыя Марчук з ПШ у Белавежы, якую рыхтавала настаўніца Анджаліна Масальская, сказала, што тэст не быў складаным, але пытанні па граматыцы лічыць больш цяжкімі.

— Вучні добра падрыхтаваліся да апошняга этапу конкурсу і на 24 яго ўдзельнікаў ажно 16 здабыла званне лаўрэата. Вучні добра ведалі прапанаваную на конкурс літаратуру. Наогул добра справіліся з характарыстыкай герояў, іншымі пісьмовымі адкрытымі задачамі, якія выконвалі на падставе літаратурных твораў і іх фрагментаў, і з закрытымі пытаннямі. Канешне, былі асобы, якія горш справіліся з паасобнымі задачамі. Вучні добра падрыхтаваліся па народных абрадах і ўмела справіліся з задачай наконт даўняга вяселля. Некаторыя асобы атрымлівалі менш балаў, калі пісалі працу па «Кургане» Янкі Купалы, а іншыя — па творы «Давыд Гарадзенскі» Вольгі Іпатавай. Канкурсанты правільна выконвалі практыкаванні па граматыцы, хаця ў частцы вучняў паяўляліся памылкі, напрыклад, у задачах па лічэбніках, ці займенніках. Да апошняга этапу конкурсу дайшлі таксама вучні шостых класаў, якія працавалі па той граматыцы беларускай мовы, якой толькі будуць вучыцца ў наступных класах. Зразумела, наймалодшым вучням больш складана было выконваць практыкаванні не толькі па граматыцы, але таксама па той літаратуры, з якой будуць толькі яшчэ займацца на ўроках беларускай мовы. Аднак тыя наймалодшыя вучні, якія сёлета сталі фіналістамі, здабылі многа ведаў і вопыт, і праз год будуць маглі выкарыстаць іх у час конкурсу. Лаўрэатамі сёлетняга конкурсу сталі вучні, якія набралі прынамсі 72 балы. Астатнія ўдзельнікі апошняга этапу конкурсу сталі яго фіналістамі і ўсе яны будуць маглі пакарыстацца прывілеямі лаўрэата або фіналіста Ваяводскага конкурсу па беларускай мове, — сказаў старшыня конкурснай камісіі настаўнік Ян Карчэўскі, калі ўжо былі правераны ўсе працы, а вынікі былі аб'яўлены на сайце Куратарыі асветы ў Беластоку.

— Стала вядомым, што з ліку 16 лаўрэатаў Ваяводскага конкурсу па беларускай мове найбольш балаў набрала Марыя Марчук з Белавежы (78). На другім месцы (па 76 балаў) апынуліся Кацярына Астапчык, Кацярына Іванюк, Максім Кавэцкі і Кандрат Косцін — усе з Беластока. Трэці вынік (75 балаў) здабыў Іван Карсунскі таксама з Беластока.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

*Знакамітасці памежжа*

# МЕРА АЎТАРСКАЙ ДУМКІ

**Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны твор, і гэты твор — мова.**
*Алесь Разанаў*

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**

З Камянецкім раёнам, у прыватнасці з вёскамі Кругель і Бабічы, Алеся Разанава нечакана звязаў лёс, калі ён, выдатнік і гордасць факультэта беларускай мовы і літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску, адным з першых падпісаў зварот да кіраўніцтва рэспублікі з просьбай дазволіць выкладанне на беларускім аддзяленні філфака ўсіх прадметаў па-беларуску. За гэта атрымаў кляймо антысаветчыка і быў выключаны з універсітэта.

За дапамогай ён звярнуўся да Максіма Танка, які ў той час займаў высокія пасады (член Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, старшыня Вярхоўнага Савета БССР, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі).

Так Алесь Разанаў стаў студэнтам Брэсцкага педагагічнага інстытута. „Прыезд Разанава ў Брэст быў апярэджаны тэлефонным званком Максіма Танка, які даручыў мне падтрымаць выгнанніка, дапамагчы ўвайсці ў новы калектыў і растлумачыць кіраўніцтву інстытута, што ёсць дамоўленасць з адпаведнымі рэспубліканскімі інстанцыямі. Па натуры ён аказаўся не бунтаром, а думаннікам, праўда, творчым, таму незалежным” (Уладзімір Калеснік).

Пасля заканчэння вучобы ў 1970 годзе Разанаў быў накіраваны на працу ў Кругельскую сярэднюю школу Камянецкага раёна. Стварыўшы тут літаратурны гурток, захапіў вучняў беларускай паэзіяй настолькі, што дзеці пачалі пісаць вершы. Дагэтуль помняцца старонкі раённай газеты, прысвечаныя пробам пяра гурткоўцаў-выхаванцаў Аляксандра Сцяпанавіча Разанава.

У гэтым жа 1970 годзе выйшаў з друку першы зборнік паэта „Адраджэнне”, у які ўвайшлі 25 вершаў. Затым была служба ў Савецкай Арміі, пасля якой — праца ў мінскіх выдавецтвах.



У 1988 годзе Разанаў праходзіць курс навук у славістычнай школе Чэхаславакіі і многа піша. Адзін за другім выходзяць зборнікі арыгінальных твораў паэта.

Час ад часу прыязджае ў Брэст, дзе выступае перад студэнтамі, удзельнічае ў Каленікаўскіх чытаннях. Усе яго прамовы глыбокія і публіцыстычна завостраныя.

З нагоды і без яе бывае ў Бабічах — радзіме жонкі, якую прыглядзеў сабе сярод вучаніц Кругельскай школы і праз гады прыехаў за ёй, каб зрабіць сваёй Музай. На 12 год маладзейшая, яна з гонарам і павагай нясе па жыцці няпростую ношу жонкі Майстра.

З 1990 года Алесь Разанаў — старшыня Беларускага рэспубліканскага фонду імя Рэрыхаў, з 1992 — навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францыска Скарыны, віцэ-прэзідэнт Беларускага Пэн-цэнтра, сябра Рады СП Беларусі.

Узнагароджаны дыпломам ЮНЕСКА за ўдзел у міжнародным літаратурным конкурсе „Сустрэча двух сусветаў”.

З імем Алеся Разанава звязваюць наватарскія пошукі ў паэзіі, здольнасць крануць душу чытача самабытнасцю, таму што яго паэзія — „сапраўдны філасофска-эстэтычны космас; такая паэзія не можа атаясамлівацца з нейкім адным з кірункаў або стыляў, „а адметная іх узаемапранікненнем, іх знітаваннем” (Ева Лявонава).

Бясспрэчна, Разанаў — паэт-мадэрніст, імя якога сёння фігуруе сярод беларускіх кандыдатаў на Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры.

чытайце



# https://binim.org

Сярод беларусаў замежжа адным з найбольш актыўных суполак можна без перабольшвання назваць канадскую, ці канадыйскую, як яны самі сабе называюць. Па вялікім рахунку, гэта не дзіўна, бо Канада за апошнія 150 гадоў стала зямлёй, дзе асела шмат людзей славянскага паходжання, і беларусы не сталі выключэннем. І паколькі беларуская дыяспара ў гэтай краіне даволі вялікая, то яна можа сабе дазволіць не толькі спяванне народных песень, супольнае святкаванне разнастайных свят, але і вывучэнне ўсяго таго, што тычыцца беларушчыны. Доказам гэтаму з'яўляецца тамтэйшы Беларускі інстытут навукі і мастацтва імя Францішка Скарыны (БІНІМ).

Каб больш пазнаёміцца з інстытутам, які насамрэч з'яўляецца грамадскай арганізацыяй, варта зазірнуць на яго сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://binim.org**. Выглядае ён даволі сціпла, але ў гэтай сціпласці ёсць нешта навуковае — нічога залішняга, усё па тэме, кожны радок тэксту змяшчае зусім не пустыя словы, толькі інфармацыю, якая мае сэнс.

Усе выйсці на рубрыкі сайта месцяцца ўверсе цэлага выяўлення. Пры гэтым найбольш важную, дзе распавядаецца пра інстытут, распрацоўшчыкі чамусьці аднеслі на перадапошняе месца.

„Роля БІНіМ выкладзена ў нашым статуце і галоўнай місіі, якая спачатку была сфармуляваная так: Беларускі інстытут навукі й мастацтва ў Канадзе (БІНіМ) ёсьць арганізацыяй навукі й культуры, якая намагаецца згуртаваць усе навуковыя й культурныя творчыя сілы, што ставяць сабе за мэту навуковае пазнаньне й вывучэньне Беларусі, беларускага народу ды ягонай культуры ў мінулым і сучасным, падтрымліваньне навуковай працы ў галіне беларусаведы, а таксама й творчай працы ў галіне беларускай культуры”, — так вызначылі яшчэ ў далёкім 1967 годзе стваральнікі БІНІМа яго місію. Параўноўваючы яе з місіяй такога ж інстытуту ў ЗША, там адзначаецца, што галоўная задача канадскай арганізацыі — „пазнаёміць і зацікавіць канадыйцаў, амэрыканцаў і эўрапейцаў навуковым і культурным багацьцем нашай радзімы на знаёмай ім мове (вядома, што гэтая мова большай часткай ангельская)”.

Працоўнымі мовамі інстытута ў яго статуце, што месціцца на аднайменнай старонцы, вызначаны беларуская, англійская і французская. Праўда, той жа статут падаецца без французскай версіі, але па-англійску, з беларускімі лацінкай і кірыліцай.

Адной з найбольш цікавых падрубрык сайта (не блытаць з рубрыкай) трэба прызнаць „Гісторыю”. Там вельмі падрабязна распавядаецца пра этапы дзейнасці канадскага БІНІМа. Актывісты арганізацыі вызначаюць два этапы — да 1989 года і ад яго да 2016 года. Менавіта ў дадзенай рубрыцы адзначаецца важнасць разгляду таго, што дзеялася альбо дзеецца з беларусамі з беларусаарыентаванага пункту гледжання.

„Беларусы Канады атрымалі свой інстытут, каб прымаць удзел у навуковых канадыйскіх і міжнародных акадэмічных імпрэзах: канфэрэнцыях, сымпозыюмах і кангрэсах, і каб несьці зьвесткі аб радзіме не царскага ці савецкага паходжаньня, а ў лепшых традыцыях сусьветнай навукі і культуры. Іншымі словамі, патрэба была, каб беларусаведа заняла законнае месца, сталася „сваёй сярод сваіх”, — такімі вызначаюцца гістарычныя перадумовы ўзнікнення БІНІМа.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



**Дата з Календара**

130 гадоў з дня нараджэння

# Янкі НЁМАНСКАГА

Беларускі пісьменнік, эканаміст Янка Нёманскі (сапраўднае прозвішча Іван Пятровіч) нарадзіўся 12 красавіка 1890 г. у мястэчку Шчорсы на Навагрудчыне. Паходзіў з шматдзетнай сям'і. У дзяцінстве зазнаў бяду і перажыў сямейную трагедыю: у 1901 г. памерла ад сухотаў маці, затым пяцёра братоў і сёстраў. Пайшлі з жыцця бабуля, дзед, дзядзька. У 1906 г. з усёй сям'і засталіся сам Іван, бацька Андрэй і цётка. Бацька неўзабаве ажаніўся з удавой, якая мела двое дзяцей. Але праз тры гады і яны памерлі. Бацька Андрэй Пятровіч з'ехаў у Расею на заробкі і там прапаў.

Іван Пятровіч у 1909 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, нейкі час працаваў у вясковай школе. У 1915-1916 і 1918 гг. вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Петраградскага ўніверсітэта. На адным факультэце з ім вучыўся Браніслаў Тарашкевіч. У Пецярбургу Пятровічу давялося зарабляць на хлеб грузчыкам у порце, жыць у адным пакоі з некалькімі чалавекамі. У 1916 г. мабілізаваны ў армію, накіраваны ў школу прапаршчыкаў. У 1918 г. загадчык выдавецкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята. У Белнацкаме Пятровіч быў сябрам секцыі беларусаў пры ЦК партыі левых эсэраў. У ліпені 1918 г. удзельнічаў ва Ўсерасійскім з'ездзе бежанцаў Беларусі.

У кастрычніку 1918 г. у Петраградзе было створана Беларускае вольна-эканамічнае таварыства. У праўленне таварыства ўваходзілі акадэмік, ураджэнец Беларусі Яўхім Карскі, адзін з арганізатараў Усебеларускага з'езда 1917 г. у Мінску Язэп Канчар, этнограф Аляксандар Сержпутоўскі і іншыя, у тым ліку і Пятровіч. У 1918-1919 гг. разам з Цішкам Гартным выдаваў газету „Дзянніца”, дзе з 1918 г. пачаў друкаваць публіцыстычныя творы. У 1919-1921 г. у Чырвонай Арміі. Ваяваў у Карэліі, пад Петраградам, Нарвай, Варшавай, у Сібіры і на Далёкім Усходзе Расеі.

З 1922 г. Янка Нёманскі ў Мінску. Працаваў у планава-эканамічных органах намеснікам старшыні Дзяржплана БССР. Сваё жыццё ў БССР Пятровіч прысвяціў найперш эканоміцы, займаў шэраг высокіх пасад. Бабруйская вобласць, створаная ў 1944 годзе — адна з тых, якія Пятровіч прапаноўваў утварыць яшчэ ў 1930-я гады. Ён працаваў над новым раянаваннем рэспублікі, але работу яму не далі скончыць. У 1927-1932 гг. Пятровіч — сябра праўлення літаратурнага аб'яднання „Полымя”. Уваходзіў у Інбелкульт. З 1928 г. — акадэмік Беларускай акадэміі навук, у 1929-1931 гг. яе сакратар. У пачатку 1929 г., як была створана Беларуская АН, яе сакратаром быў Вацлаў Ластоўскі. У тым жа годзе яго звольнілі, неўзабаве рэпрасавалі. Яго месца заняў якраз Іван Пятровіч. З 1931 г. — загадчык аддзела эканомікі Навукова-даследчага інстытута прамысловасці. У 1931-1932 гг. — дырэктар Інстытута эканомікі Беларускай АН. У 1933-1936 гг. узначальваў кафедру фінансавых дысцыплін у Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі.

Як пісьменнік дэбютаваў апавяданнем „Над Кроманню” у 1922 г. (часопіс „Полымя”). Цягам 1928-1930 гг. пісаў раман „Драпежнікі”, які застаўся няскончаным (рукапіс 2-й часткі быў спалены супрацоўнікамі НКВД пасля арышту).

Івана Пятровіча арыштавалі 26 красавіка 1937 г., 29 кастрычніка засудзілі да расстрэлу. НКВД расстраляў яго ў Мінску 30 кастрычніка 1937 г. у ліку іншых 32 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Рэабілітаваны ў 1957 г. Памяць пра Янку Нёманскага не ўшанавана.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Ён увёў у паэзію новыя паэтычныя формы: квантэмы, версэты, пункціры, вершаказы, прытчы і іншыя. Выключна аўтарскімі ў гэтым пераліку з'яўляюцца вершаказы і квантэмы. Астатнія — прадукт павагі паэта да традыцыі і авалоданне літаратурнай спадчынай: „Спадчына не ў мінулым, а з мінулага: яна — вектар, які паказвае дарогу, яна — аблічча ўчалавечанага часу. Мы ўсе пэўным чынам сфарміраваны нашымі папярэднікамі, мы ўсе пэўным чынам іхнія персанажы" (Алесь Разанаў).

Сваімі пошукамі і адкрыццямі паэт паказаў наяўнасць невычэрпных скарбаў беларускай мовы. А ўплыў сусветнага мастацкага слова на творчасць Разанава відавочны. Пра гэта пісалі Пімен Панчанка і Міхась Тычына, Алег Лойка і Варлен Бечык, Ала Кабаковіч і Уладзімір Калеснік.

Дарэчы, Уладзімір Андрэевіч Калеснік у свой час даў, бадай, самую дакладную ацэнку творчасці былога студэнта, слушна сцвярджаючы, што яго вершы „ствараюцца крыху навырост, але з разлікам на таго інтэлігентнага думаючага чытача, за якім будучыня".

*Не бачу яе — прадбачу,*
*Не чую — а прадчуваю,*
*Не ведаю — а прадведваю...*
*Зямля запяклася,*
*як чорная кроў.*
*Шчэрацца ззаду здані.*
*Боязь засцерагае:*
*у будучыні — смерць!...*
*Адвага натхняе:*
*у будучыні — неўміручасць!..*
(„Будучыня", версэт)

Прыйшоўшы ў літаратуру ў пачатку 70-х гадоў, Разанаў дасягнуў пэўных вышынь у творчых пошуках, аб чым сведчаць не толькі 19 зборнікаў паэзіі, але і ўзнагароды: Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы ў 1990 годзе за кнігу вершаў „Вастрыё стралы", літаратурная прэмія імя Іагана Готфрыда за зборнік, напісаны па-нямецку „Wordichte" (трэба сказаць, што некаторы час паэт жыў у Германіі і Аўстрыі, дзе, пачаўшы пісаць па-нямецку, выдаў дзве кнігі вершаў: „Танец з вужакамі" і „Гановерскія пункціры"), у 2012 годзе — прэмія „Залаты апостраф" за зборнік публіцыстыкі „Столькі і гэтулькі"...

Варта адзначыць, што творы Алеся Разанава, як і вершы паэтэсы з Бельска-Падляшскага Надзеі Артымовіч, маюць свайго чытача, аб чым сведчаць студэнцкія работы па вывучэнні іх творчай спадчыны. А ў 1995 годзе выйшаў сумесны зборнік „Дзверы", у якім тэксты паэтэсы суправаджаюцца філасофскімі каментарыямі Майстра.

(Дарэчы, Надзея Артымовіч, як і Алесь Разанаў, вяла настойлівы пошук у самых найсучаснейшых паэтычных плынях).

Для пэўнай катэгорыі чытачоў, да якіх адношу і сябе, цяжкасць успрымання некаторых вершаў і асобных радкоў паэм Разанава ў тым, што вельмі многае застаецца ў падтэксце. А нехта з крытыкаў нават адназначыў, што „ў Разанава не столькі паэзія, колькі паэтыка".

*Ці доўга вачам калыхацца лёс разважае незаўважны крок.* (квантэма)

Квант — фантом святла, які валодае энергіяй і імпульсам. У фізіцы імпульс — мера механічнага руху. Імпульс квантэмы — мера аўтарскай думкі.

## Сезон на мядзведжы часнок

Зараз сезон на мядзведжы часнок (называюць яго таксама „дзікім" або цыганскім часнаком, а таксама цыбуляй чараўніц. Ён вядомы ў народнай медыцыне. Ужо яго збіраюць у Белавежскай пушчы. Трэба аднак памятаць, што гэтая, між іншым, лекавая расліна знаходзіцца пад частковай ахоавай. У мінулым годзе збіральнікі лекавых зёлак мядзведжы часнок прадавалі на пунктах скупкі гайнаўскай суполкі з абмежаванай адказнасцю „Руно".

Зараз некаторыя жыхары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ўжо смакавалі сёлетні мядзведжы часнок. Ужывалі яго як прыправу да мясных страў ды ад прастуды і іншых больш цяжкіх захворванняў (рак, малакроўе). У бліжэйшыя дні, перш-наперш выхадныя, плануюць паехаць па часнок у лес каля Косага Моста ды за вёску Капітаншчына ў напрамку Крыніцы. Яны маюць там свае глыбока засакрэчаныя месцы. Хто ведае, дзе расце тая лекавая расліна, то захоўвае тайну для сябе. Грыбнік таксама не скажа дакладна, дзе збірае найлепшыя баравікі.

Але вярталося да пахучага ляснога часнаку. Цяпер якраз на яго сезон. Калі зацвіце, тады будзе запозна, то ўжо не тое. Ядомыя толькі яго маладыя цёмна-зялёныя сочныя лісткі (у іх вітамін А, С і Е ды селен). У маі мядзведжы часнок зацвіце, а лісткі страцяць бляск і лекавую вартасць, змарнеюць і пачнуць сохнуць. Таму цяпер, у красавіку, найлепшая пара яго збіраць. Можна таксама сушыць, каб мець зімой. **(яц)**

## Тамара з кветкамі

Кветкавы магазін „Тамара" існуе ў Гайнаўцы 45 гадоў, найдаўжэй ад іншых з такімі цудоўнымі аздобнымі раслінкамі. Ён шырокавядомы. Заснавала яго і вядзе ад самага пачатку вопытная кветачніца Тамара Кірылюк. Многа гадоў супрацоўнічае з ёю Ірэна Буйноўская. Яны вядуць фларыстычныя курсы для ўсіх ахвотных паглыбляць свае веды на розныя тэмы звязаныя з кветкамі. Магазін знаходзіцца ў зручным месцы ў цэнтры горада — побач скрыжавання з кругавой развязкай вуліц 3 Мая, Белавежскай, Варшаўскай і кс. І. Верабея.

У „Тамары" вялікі выбар кветак. Тут купіце ліліі, ружы, фрэзіі, маргарыткі, бягоніі, азаліі, антурыюм, астрамерыі, кустромы, юкі, кратон, прымулы, ятрышнікі, малыя сланечнікі і шмат іншых кветак. Можна купіць жывыя зрэзаныя кветкі і ў вазонах. Можна заказаць вяночкі.

Кветкі, іх прыгажосць і цудоўныя колеры даюць радасць, папраўляюць дрэнны настрой. Найбольш любяць іх жанчыны. Кветкі спадарожнічаюць людзям у розных жыццёвых момантах — радасных (шлюб, вяселле) і сумных (пахаванне). Дорым кветкі ў Дзень жанчын, Дзень маці і з мноства іншых нагод. Усе жанчыны любяць, калі кветкі дараць ім мужчыны. І за гэта мацней іх любяць і лепш шануюць. Мужчыны, не абмінайце кветкавы магазін „Тамара".

**(яц)**

# 12.04 — 18.04

**(22.03. — 20.04.)** Хопіць табе рашучасці і добрай волі. 12-13.04. лепш глядзі праз пальцы на заганы іншых. Затое 12-17.04. сваякі і сябры могуць добра «даць табе ў косць». На працы можаш пераканацца, што няма незаменных людзей. І лепш не выступай адзін ад імя ўсяго калектыву. З 17.04. (да 19.04.) будзеш ведаць, як карысна інвеставаць ашчаднасці. З 16.04. (да 20.04.) сустрэнеш кагосьці, хто будзе варты ўвагі. Больш варушыся.

**(21.04. — 21.05.)** Добрая паласа ў бізнесе. Будуць людзі, якія табе добра заплацяць, можа, за ежу ці яе давоз. Не разлічвай на вялікія эмоцыі ў пачуццях. Хаця будзе спакушаць, каб пазваніць былому. Сярод блізкіх схочацца табе ўсяго нагаварыць проста ў вочы. На працы ў цане баявітасць, паслядоўнасць, але і «мяккія кампетэнцыі». Звяртай увагу на патрэбы і пачуцці супрацоўнікаў; разам дасягняце болей. 17-19.04. поспехі ў мастацтве.

**(22.05. — 22.06.** Не будзе для цябе немагчымага. Можаш зрэалізаваць нават шалёныя задумы. На дарозе стануць вельмі зычлівыя табе асобы. З 16.04. можаш ўратаваць сваю сувязь і вярнуць партнёра. 16-20.04. можаш даць сябе спакусіць. 12-13.04. не згубі важнай памяткі. На працы навала спраў і абавязкаў, што зматывіруе цябе да дзеяння. 17-19.04. удала ў інтарэсах.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш узорам працавітасці і сумленнасці. Будзеш прымушаны да напружанай працы, патрактуй гэта як шанц, каб сябе паказаць. Будзеш адважны і пазбудзешся нясмеласці. 12-16.04. шэф можа паклікаць цябе «на дыванік», але нішто яшчэ не вырашана. Праўда, фінансы ў красавіку могуць крыху пакульгваць. Найбольшы твой вораг — недахоп руху. 12-14.04. могуць турбаваць цябе хатнія спрэчкі.

**(24.07. — 23.08.)** Новыя выклікі і шанцы.12-16.04. выявіцца могуць твае скрываныя слабасці. 16-19.04. добры час на наладжванне знаёмстваў (хутчэй у інтэрнэце). Не будзе хацецца сядзець без справы. Схочацца зрабіць жыццё цікавейшым. 12-13.04. зоркі паўстрымаюць цябе, каб не ляпнуць чаго, што ўсё можа разваліць. 13-17.04. не страць рэпутацыі! З 16.04. (да 20.04.) каханне можа пачацца з размовы. Справы на рабоце пад кантролем.

**(24.08. — 23.09.)** Не шкадуй грошай на вучобу. Сцішацца эмоцыі і палагодзяцца страхі. 12-13.04. удасца вырашыць у пары старую праблему. Самотныя Дзевы рамантычныя і лішне нясмелыя. Будзеш прыцягваць асобы, якім падабаецца твая кемлівасць і спраўнасць, але ці патрэбны табе плюшч, што аплятаецца вакол цябе? Займіся нейкімі курсамі анлайн. 12-13.04. будзеш адчуваць стому і млявасць, трымайся здалёк ад кашляючых і чхаючых. Еж здаровае і чыстае.

**(24.09. — 23.10.)** Твае здольнасці і дасягненні будуць прыкмечаны. Малыя прыемнасці дома. 12-13.04. вашы кантакты дома будуць вельмі чулымі. Але 12-17.04. пагражаюць аварыі і выпадкі, вельмі пільнуйся. Марс паможа скінуць лішнія кілаграмы. З 16.04. можаш здабыць чыёсьці сэрца. Разлічвай на дапамогу блізкіх. 17-19.04. канкрэтная прапанова на працы, але прыйдзецца падвучвацца.

**(24.10. — 22.11.** Адчуеш імпульс да змен. Вакол цябе прыязныя людзі і мудрыя дарадчыкі. Будзеш поўны веры ў сябе. 12-17.04. крызіс паміж табой і блізкай асобай развяжа размова з сябрам ці сямейнікам. Не забывай аб гадавінах. Самотныя Скарпіёны могуць знайсці сябра. Скарпіёны з уласнай фірмай будуць рэалізаваць нетыповыя і цяжкія заданні. Бяры ўдзел у майстар-класах анлайн.

**(23.11. — 22.12.)** Адкрыешся на свет і пазнаеш свае магчымасці. Шанц на вялікае каханне на адлегласць. Будзеш поўны фантазіі і ўпэўнены ў сабе. Знакаміты час у старых парах. Гарачы час асабліва з 16 (да 20.04.). Самотныя Стральцы няхай адважацца і зачэпяць кагосьці ў інтэрнэце. З 17.04. (да 19.04.) шчаслівыя знаходкі. Хопіць табе аптымізму і ўсмешкі.

**(23.12. — 20.01.)** Пакажашся з лепшага і сімпатычнага боку. Цвярозы пагляд на жыццё. Знаёмся з новымі людзьмі (вядома, электранічна) — яны табе прыдадуцца пасля. На працы «дашпільвай» старыя праекты, асабліва 12-17.04. — зможаш пачаць рэалізаваць іх праз пару тыдняў. Настрой кепскі, абы драбяза можа давесці цябе да шалу. Не наступі на мазоль камусьці мацнейшаму ад цябе.

**(21.01. — 19.02.)** Не будзеш добра адчуваць сябе ў самоце. Сябры не падвядуць, а каханне само цябе знойдзе. Не будзеш рабіць таго, што хацелася б. Удалае супрацоўніцтва на адлегласць. 17-19.04. знойдзеш знаёмых; выбірай іх вельмі старанна. 12-13.04. не пляці абы-чаго. Займайся фізкультурай дома.

**(20.02. — 21.03.)** Развінеш мастацкія захапленні, пазнаёмішся з цікавымі людзьмі на фейсбуку і ў асьцы. Магчымыя любоўныя завіраванні. Не пераборшч з алкаголем. Калі ты шэф, можа не хапіць табе людзей да працы; на бягуча карэктуй дробныя заданні. На новыя прапановы глядзі крытычна. Прыхарошвайся хай бы і дома.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм.

1. правы прыток Волгі, які прымае Маскву = 22 _ 16 _ 17 _;
2. чараўнік = 21 _ 38 _ 29 _;
3. адзінка вымярэння, размер = 20 _ 23 _ 18 _ 19 _;
4. бацька Хама = 36 _ 2 _ 3 _;
5. засеяны ўчастак зямлі = 31 _ 28 _ 14 _ 15 _;
6. крывіцца на пятніцу = 10 _ 13 _ 26 _ 11 _ 24 _ 30 _;
7. дзённае свяціла = 7 _ 6 _ 27 _ 33 _ 32 _;
8. паўднёва-заходняя частка тэрыторыі Кітая = 37 _ 34 _ 12 _ 35 _ 1 _;
9. частка вупражы, якая злучае каня з аглоблямі = 4 _ 8 _ 9 _ 25 _ 5 _. (ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| | | | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 11 нумара**
Ева, камасацыя, чабан, Ясь.
Рашэнне: **Не бачыць сава, якая сама**.

Ніва — тыднёвік беларусаў у Польшчы
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Чаромха

Некалькі тыдняў таму быў я ў Чаромсе пабачыць тамашні чыгуначны вакзал пасля перабудовы. Зараз няма магчымасці падавацца ў падарожжа, таму вярнуся ў Чаромху віртуальна, заглядаючы крышку ў яе мінулае. А мінулае кароткае, гісторыя ўзбуйнення мясцовасці пачынаецца нядаўна, па сутнасці ў пачатку XX стагоддзя. Мова тут не пра вёску Чаромху, толькі пра чыгуначны пасёлак...

Чаромха распалажана на тэрыторыі гістарычнай Берасцейскай зямлі. З XVI стагоддзя захавалася згадка пра Палавецкую валасць, да якой належалі суседнія з сучаснай Чаромхай вёскі — Ставішча і Полаўцы, якія цяпер у Чаромхаўскай гміне, ды Пяшчатка, Хлявішча і Сухадол, якія зараз на тэрыторыі Беларусі. Палавецкая ад Полаўцаў, а Полаўцы — ад полаўцаў таксама. А полаўцы, цюркскі народ, прывандравалі-прыкачавалі на нашы землі ў канцы першага тысячагоддзя з далёкага Алтая. Сёння па іх асталася назва мясцовасці ды гістарычны ўспамін.

У 1873 годзе адкрываецца рух на чыгуначнай Берасцейска-Граеўскай лініі, а ў 1906 годзе з'яўляецца ў Чаромсе другая чыгуначная лінія — з Седльцаў цераз Ваўкавыск і Ліду ў Полацк. Чаромха становіцца чыгуначным вузлом. Станцыя займае назву ад адлеглай за тры кіламетры вёскі Чаромха. Вакол чыгуначнага вузла пачынаюць расці жыллёвыя будынкі для чыгуначнікаў. Былі пабудаваны і аб'екты чыгуначнай інфраструктуры — вакзал, паравознае дэпо, вадакачка. Школа ў Чаромсе пачала дзейнасць толькі ў міжваенны перыяд, у 1926 годзе.

Складана сёння даведацца, як на станцыі праходзілі падзеі Першай сусветнай вайны; толькі вельмі агульна можна адзначыць, што нямецкае панаванне пачалося ў верасні 1915 года пасля эвакуацыі расійскага персаналу, а ў 1919 годзе месца немцаў займаюць польскія чыгуначнікі, прысланыя сюды з Вільні. Магчыма, што такі інфармацыйны прабел паўстаў у выніку бежанства, калі мясцовае насельніцтва пакінула ў жніўні 1915 года Чаромху і не захавала ў сваёй памяці пазнейшых падзей. Таксама вяртаючыся з бежанства людзі не ўлавілі таго, што дзеялася раней.

Пра міжваенную Чаромху пісаў у сваіх успамінах Дзмітры Шатыловіч: „На станцыі Чаромха, хіба ў 1938 годзе, немец збудаваў фабрыку, у якой насычалі нейкім хімічным растворам чыгуначныя шпалы. Там пачалі працаваць многія маладыя сяляне. Вярталіся яны дамоў чорныя як негры. За дзень працы плацілі ім 2,50 зл. Селяніну, а асабліва беларусу, вельмі цяжка было знайсці працу. Сезонна часам прымалі на працу на чыгунцы. За дзень працы пры выменьванні шпалаў пад рэйкамі плацілі спачатку 2 зл., а пасля толькі 1,80 зл. Станцыя Чаромха была вузлавой станцыяй. А 15-й гадзіне кожны дзень прыязджалі чатыры цягнікі: з Варшавы ў Вільню і з Вільні ў Варшаву, з Беластока ў Брэст і з Брэста ў Беласток. Ездзілі і прыгарадныя цягнікі ў Гайнаўку, Бельск-Падляшскі, Седльцы. Цягнікі ў міжваенны перыяд былі чыстыя і ездзілі вельмі пунктуальна. Помню не аднаго замежнага важнага госця, які ехаў цягніком у Белавежу на паляванне. Вакзал тады ўпрыгожвалі флагамі і кветкамі. Вакзал на станцыі Чаромха пабудавалі яшчэ ў царскія часы. Гэта быў вялікі двухпавярховы будынак з вялізнымі як у саборы вокнамі. Уваход вёў у вялікую пачакальню з касай для пасажыраў, затым быў вузкі калідор з дзвярамі з двух бакоў да пакояў начальніка станцыі, дзяжурнага руху і тэлеграфіста. Далей быў перпендыкулярны калідорчык, дзе стаялі два аўтаматы, якія прадавалі шакаладныя цукеркі. За калідорчыкам была вялікая зала з рэстаранам...".

Пра падзеі Другой сусветнай вайны захавалася больш інфармацыі чым пра Першую сусветную вайну, паколькі насельніцтва на той час усходнія ўлады не ўспелі вывезці, ці то на „белыя мядзведзі", ці папросту эвакуіраваць.


Царкоўныя купалы




Ужо з пачаткам вайны чыгуначны вузел у Чаромсе становіцца аб'ектам ваенных дзеянняў. Дзмітры Шатыловіч: „1 верасня 1939 г., у пятніцу, нямецкі самалёт пусціў дзве ці тры чаргі з кулямёта па таварных вагонах з ваеннымі. Некалькі салдат было параненых. Польскія кулямёты на вагонах не паспелі нават адкрыць агонь да варожага самалёта і ён адляцеў". У наступныя некалькі дзён таксама наляталі па некалькі нямецкіх самалётаў, скідаючы бомбы на станцыю... „Найбольш жахлівым было 8 верасня, калі на станцыю Чаромху каля гадзіны 15.30 прыляцела 36 нямецкіх самалётаў. Бамбардзіроўка прадаўжалася мінут дваццаць-трыццаць. (...) Калі адляцелі самалёты і прыйшла ноч, полымя пажару доўга яшчэ ззяла на ўсходзе. Тады адна з бомб папала ў вельмі прыгожы чаромхаўскі вакзал і разбурыла адну яго частку, у якой быў рэстаран. Бомба папала і ў другую частку вакзала, але не разарвалася. Пасля яе абясшкодзілі сапёры-чырвонаармейцы. Другая палова вакзала ацалела і служыла да ліпеня 1944 г., калі адступаючы немцы яго ўзарвалі. Пашкоджаны былі вадакачка, многія дамы, вагоны, рэйкі. Пад бомбамі загінула многа салдат і мірных жыхароў, асабліва бежанцаў уцякаючых ад вайны, якія жылі ў вагонах. Пасля гэтага налёту чыгуначны вузел перастаў дзейнічаць". Нямецкае сухапутнае войска праехала ў наваколлі Чаромхі ноччу з 12 на 13 верасня, а пасля трох дзён усё заціхла. „Настала безуладдзе. І тады сяляне з навакольных вёсак кінуліся на станцыю Чаромху грабіць казённае. Забіралі ўсё, што было ў вагонах і на чыгуначных і дзяржаўных складах, на вакзале, у канторах, пакуль усяго не вычысцілі. Многія насілі тавары на плячах, некаторыя прыязджалі вазамі...". 18 верасня зноў з'явіліся немцы і два дні пазней ад'ехалі. Савецкія салдаты з'явіліся ў канцы верасня, за імі прыехаў эшалон ваеннай тэхнікі. За Кузавай, у лесе, саветы выстраілі ваенны гарадок, а на станцыі Чаромха пабудавалі вялікі склад бензіну і іншага паліва...

Чыгунка ў той час была своеасаблівай крываноснай магістраллю ваюючай арміі. Па рэйках перамяшчаліся жывая сіла і ваенная тэхніка. Таму чыгуначныя аб'екты былі ў час вайны галоўнай мішэнню ваюючых бакоў. Неўзабаве чаромхаўская станцыя стала зноў аб'ектам бамбардзіроўкі. Дзмітры Шатыловіч: „22 чэрвеня 1941 г., дзесь у пяць гадзін раніцы, калі я яшчэ спаў, задрыжэлі сцены дома. Я выбег на двор і паглядзеў на ўсход. Там на поўдзень ад станцыі Чаромхі нізка лёталі дзясяткі нямецкіх самалётаў і кідалі бомбы на склад паліва. Ужо ўспыхнуў там вялікі пажар, зарыва якога бухала высока ў неба. У неба, як паветраныя шары, высока вылятаелі бочкі ці бакі з палівам і з грукам узрываліся. Самалёты час ад часу па некалькі штук надляталі над Чаромху і бамбілі станцыю. Мы здзіўляліся, што савецкая зенітная артылерыя зусім не страляла да нямецкіх самалётаў, бо не было загаду з Масквы...".

Пасля трох дзён усё заціхла. „І тады сяляне з Чаромхі і навакольных вёсак кінуліся грабіць усё, што знаходзілася ў вагонах. Немцаў яшчэ не было і ніхто не перашкаджаў у рабунку. А на пуцях стаялі эшалоны поўныя тавараў, якія мелі ехаць у Германію. Сяляне вазамі везлі скрынкі маскоўскай гарэлкі. Навезлі яе столькі, што хапіла яе на некалькі гадоў нямецкай акупацыі. Апрача таго ў вагонах поўна было салдацкай бялізны, якую савецкія фабрыкі прыгатовілі нямецкім салдатам. Стаяла некалькі вагонаў белай ангорскай поўсці, якую пасля дзяўчыны пралі і з нітак вязалі світары і іншыя рэчы. Стаяла многа вагонаў, запоўненых белай чыстай баваўнай, якую дзяўчаты таксама пралі, ткалі і шылі вопратку". А ў лістападзе на чаромхаўскую станцыю „прыязджалі з Расіі цэлыя эшалоны параненых нямецкіх салдат, то ізноў везлі на вагонах у Германію разбітыя самалёты і танкі".

У навагоднюю ноч з 1942 на 1943 года немцы падпалілі каталіцкую капліцу побач станцыі, пабудаваную ў 1932 годзе. Пасля набажэнствы правіліся ў розных прыватных дамах, а з 1946 года ў мураванцы, якую ў 1957 годзе знеслі і на яе месцы ўзвялі цяперашні касцёл; у той жа год і была выдзелена з Кляшчэлеўскай парафіі самастойная Чаромхаўская парафія...

Ноччу з 5 на 6 мая савецкія партызаны праніклі ў паравознае дэпо і застрэлілі нямецкіх майстра і дыспетчара. Нямецкая жандармерыя зараз жа ачапіла пасёлак. Частку злоўленых на вуліцах прахожых адабралі, вывезлі ў лагер і след па іх загінуў.

19 ліпеня 1944 года нямецкія сапёры замініравалі вакзал, дэпо, рампы і іншыя станцыйныя аб'екты і 28 ліпеня, адступаючы, узарвалі ўсё. Зараз за імі ўвайшлі ў Чаромху чырвонаармейцы. Чыгуначная інфраструктура паступова адбудоўвалася. Драўляны часовы вакзальны будынак служыў тамашнім пасажырам чатыры дзесяцігоддзі. У 1986-1989 гадах быў змураваны новы вакзальны будынак, які праслужыў тры дзесяцігоддзі, быў знесены мірнымі сродкамі і на ягоным месцы нядаўна быў здадзены ў карыстанне чарговы вакзал...

У 1986 годзе быў у Чаромсе заснаваны праваслаўны прыход, у наступным годзе пачалася пабудова царквы, завершаная ў 1995 годзе. Абодва храмы пад заступніцтвам Багародзіцы...

У маі 1955 года быў здадзены ў карыстанне будынак пачатковай школы, найбольшы ў той час на Беласточчыне, разлічаны на 600 дзяцей. У 1962 годзе быў здадзены ў карыстанне будынак новага дома культуры чыгуначнікаў, які зараз з'яўляецца Гмінным асяродкам культуры. Задзейнічалі там харавы, тэатральны і інструментальны (мандалінстаў) ансамблі, бібліятэка, кіно...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960
15